PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (2211) Год XLIII Беласток 27 верасня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Выбары штораз бліжэй

15 верасня г.г. сваю выбарчую кампанію ў Гарадскую раду Беластока пачала Беластоцкая самаўрадавая кааліцыя „Левыя і незалежныя разам”. З гэтай нагоды была склікана прэс-канферэнцыя ў сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства па вул. Варшаўскай 11.

Спісак сваіх кандыдатаў у Гарадскую раду Беластока — 100 чалавек — кааліцыя „Левыя і незалежныя разам” зарэгістравала 8 верасня г.г. Спісак гэты сваімі подпісамі падтрымала 5200 выбаршчыкаў.

Паводле Сяргея Плевы — старшыні выбарчага камітэта кааліцыі, — „Левыя і незалежныя разам” згуртавалі ўсе суб'екты, у якіх „сэрца бліжэй левага боку”. А гэта: Саюз левых дэмакратаў, Унія працы, настаўніцкія прафсаюзы, Фракцыя моладзі СДРП. Пасля доўгіх і цяжкіх перамоў, дадаў яшчэ С. Плева, да кааліцыі далучылася і праваслаўнае асяроддзе, якое „мы ўспрымаем як нацыянальную меншасць”.

Паводле Зофіі Транцыгер — старшыні выбарчага штаба, — лозунгам кааліцыі ў выбарах мае быць „Працуем пры адкрытай заслоне”. Кампанія мае фінансавацца за кошт добраахвотных складчын кандыдатаў, якія ў момант прэс-канферэнцыі дасягнулі сумы 30 тыс. зл. За гэтыя сродкі будуць выдадзены лістоўкі (прынамсі 1000 на кандыдата) і плакаты. Камітэт не прымае грошай і ахвяраванняў ад фірмаў, бо гэта, паводле З. Транцыгер, „нараджае кантраверсіі”.

Беластоцкая самаўрадавая кааліцыя „Левыя і незалежныя разам” цікавая тым, што на яе спісках выступаюць дзве асобы, якія прызнаюцца публічна ў сваёй беларускасці. Прафесар **Антон Мірановіч** кандыдуе ў акрузе н-р 1 (другое месца на спіску), а **Пятро Крук** у акрузе н-р 7 (чацвёртае месца). Абодва — радныя ўступаючай Гарадской рады.

За найважнейшыя справы ў горадзе старшыня выбарчага камітэта кааліцыі лічыць будаўніцтва, кадравую нармальнасць („не будуць лічыцца палітычныя схільнасці і веравызнанне”) ды бяспеку („годныя ўмовы працы праваахоўным органам”). Прафесар А. Міраповіч неабходным лічыць таксама пабудову кальцавых дарог вакол Беластока („горад перагружаны машынамі”).

У праграмнай дэкларацыі, між іншым, чытаем: „Хочам фармаваць вобраз Беластока, як цывілізаванага і талерантнага горада, які ўмее гуртаваць людзей у супольнасць — незалежна ад поглядаў, паходжання і прыналежнасці. Не пагаджаемся на правінцыйнасць, асмешванне Беластока перад грамадскай думкай краіны”.

Вельмі прыгожа. Як заўжды.

**Аляксандр Максімюк**



*Будынак па вул. Міцкевіча ў Бельску-Падляшскім.*

# Раскол „па-над падзеламі”

Мікола Ваўранюк

**Выбарчая камісія ў Бельску-Падляшскім зарэгістравала два выбарчыя камітэты з падобнымі назвамі: Бельская кааліцыя і Бельская зямля. Хто хаваецца за гэтымі шыльдамі?**

Папярэднія выбары ў Гарадскую раду Бельска выйграла Бельская кааліцыя, якую заснавалі: Беларускі выбарчы камітэт, Саюз левых дэмакратаў, Унія працы і Саюз украінцаў Падляшша. Чатыры гады кіравання горадам прайшлі без перабояў і даволі паспяхова. Магістрат у гэты час стаў адміністравараваць пачатковымі школамі і ўсе яны змянілі свой воблік, усюды былі праведзены генеральныя рамонты. Таксама рамантавалі, мадэрнізавалі, перабудавалі цэлы рад вуліц, якіх ніхто не кранаў дзесяцігоддзямі. Гарадская ўлада была адкрытай на гаспадарчыя ініцыятывы. Флагманам працэсу развіцця прадпрымальніцтва, напэўна, можна лічыць фірму „Anatol-Polska”, якая дае ўжо працу дзвюм сотням бяльшчан і ўвесь час развіваецца.

На сёлетнія выбары кааліцыянты рашылі зноў пайсці разам (за выключэннем Уніі працы, якая папросту ў Бельску знікла). Ужо ў студзені-лютым быў заснаваны Выбарчы камітэт Бельская кааліцыя, які ўзначаліў бурмістр Андрэй Сцепанюк. Яго намеснікамі сталі Юры Ігнацюк (Саюз украінцаў Падляшша) і Януш Панасюк (Саюз левых дэмакратаў). Паколькі, аднак, адміністрацыйная рэформа краіны была ўсё яшчэ ў сферы спекуляцый, кааліцыйная дамова датычыла толькі выбараў у гарадскую раду.

— І тут мы зрабілі памылку, — кажа Васіль Ляшчынскі, старшыня Беларускага выбарчага камітэта. — Трэба было дамагацца, каб у дамове ясна былі выкладзены прынцыпы, на якіх прымаем удзел у выбарах таксама ў павятовую раду і ваяводскі сеймік.

Парламент доўга выпрацоўваў новы адміністрацыйны падзел Польшчы. У сувязі з гэтым, не было вядома, у якія органы тэрытарыяльнага самакіравання будзем выбіраць сваіх прадстаўнікоў. Бельская кааліцыя чакала рашэнняў у Варшаве пасіўна. Калі Сейм прыняў адпаведныя пастановы і трэба было брацца за працу, на сустрэчы выбарчага камітэта перастаў прыходзіць Юры Ігнацюк. Хутка выявілася, што заснаваў ён свой камітэт, які прыняў назоў: Бельская зямля.

Прадстаўнікі Саюза украінцаў Падляшша у Бельскай кааліцыі заявілі, што гэта прыватная ініцыятыва Ігнацюка, пра якую арганізацыя нічога не ведала. Юры Ігнацюк у тэлеперадачы „Самі пра сябе” сказаў, што яго камітэт „па-над падзеламі”, паколькі формула нацыянальных камітэтаў аджыла.

— Тое, што зрабіў Ігнацюк, — кажа Васіль Ляшчынскі, — я ацэньваю адназначна як раскол праваслаўнай грамадскасці Бельшчыны. У будучым Бельскім павеце і так палякі складаюць большасць, хаця мінімальную. Але ў Бельскай кааліцыі былі шанцы на перамогу, калі б у польскіх ваколіцах крыху галасоў узяло СЛД. Цяпер, калі за галасы тых самых выбаршчыкаў

[працяг ☞ 3]

## Такая вёска была!

Паехаў Вітак Латыш у Гарадок памагчы капаць дол пад магілку. Хацеў паправіць, каб усё рыхтык было, як з другога помніка крыж зваліўся, акурат яму на галаву. Малодшыя якась з долу павыскаквалі. Вітак адразу страціў прытомнасць.

[жахалка ☞ 3]

## Змаганне Рыдза з праваслаўем

На Беласточчыне і Гродзеншчыне ўжо ад 1935 года дзейнічалі структуры Згуртавання праваслаўных палякаў. Гэтая арганізацыя, якая ўзнікла па ініцыятыве паліцыі і адміністрацыі напрыканцы трыццатых гадоў стала вельмі актыўнай. Аб'ядноўвала яна між іншым маладых святароў, якія былі энтузіястамі змены культурнага характару праваслаўя ў Польшчы.

[гістарычны нарыс ☞ 4]

## Эпітафіі Віктара Шведа

Немудрагелістыя, шчырыя вершы Віктара Шведа, якія ён піша на працягу больш пяцідзесяці гадоў, сталі неадлучным элементам беларускага жыцця Беласточчыны. Калі Пятро Германюк параіў даць беларускі надпіс на помніку яго дваюраднаму брату, не ведаў, што прапанаваў словы з верша Віктара Шведа. „Ніколі і нідзе не адракуся, што беларусам жыў і буду жыць”, — гэтая простая, канкрэтная дэкларацыя, ведаў ён, была б яго брату па душы.

[болей ☞ 8]

## Асвячэнне капліцы

Ад пачатку марылі мы, каб перавезці ў скансэн капліцу, але ўсе патрэбныя былі ў парафіях. Спадабалася нам капліца ў Новаберазове, пабудаваная з нагоды 900-годдзя хрышчэння Русі. У 1996 годзе звярнуліся мы да тадышняга мітрапаліта Васілія з просьбай благаславіць на пабудову такой жа самай капліцы ў нашым скансэне ў Белавежы.

[падрабязнасці ☞ 9]

## Суджана жывым астацца

Каля Ташкента стаялі мы амаль цэлае лета. З Расеі вывезлі нас у Іран, здаецца, 18 жніўня. У Іране прабылі некалькі тыдняў. Паставілі палаткі на беразе Каспійскага мора і нічога не рабілі, толькі купаліся.

[успаміны ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Беларуская моладзь бяжыць на Захад!

3 верасня г.г. васемнаццацігадовы Алесь Мухін папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы. Гэты крок ён вымушаны быў зрабіць з-за праследу збоку рэжыму Лукашэнкі.

Асноўныя непрыемнасці для Алеся пачаліся 28 лютага 1998 г., калі, вяртаючыся з канцэрта беларускага рок-гурту „NRM", ён напісаў на сценах дамоў і мурах лозунгі „Жыве Беларусь" і „Лукашэнку дыктатара за краты". Каля надпісаў змяшчаў выяву нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга. Юнак быў затрыманы міліцэйскім патрулём. У міліцэйскім пастарунку допыты доўжыліся да раніцы. На яго ўзбудзілі крымінальную справу паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Судом Цэнтральнага раёна г. Мінска Алесь Мухін быў прызнаны віноўным і атрымаў прысуд — пазбаўленне волі на год умоўна з адтэрміноўкай выканання прысуду на год.

28 сакавіка 1998 г. Алеся Мухіна выключылі „за палітыку" з Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Знаходзячыся ў Польшчы, Алесь Мухін даведаўся з Управы Маладога Фронту, што яго актыўна шукаюць на Беларусі прадстаўнікі міліцыі і спецслужбаў. Іншага выйсця з сітуацыі, як папрасіць палітычнага прытулку ў Польшчы, у Алеся не было. Пакуль Алесь Мухін жыве ў Беластоку. Падаў заяўку на Беластоцкую палітэхніку і з кастрычніка стане яе студэнтам.

**Ян АБАДОЎСКІ**

## Хмары над БПСМ

Міністэрства юстыцыі прыняло рашэнне вынесці ўжо другое з пачатку гэтага года пісьмовае папярэджанне Беларускаму патрыятычнаму саюзу моладзі (БПСМ). Намеснік кіраўніка ўпраўлення грамадскіх аб'яднанняў Міністэрства юстыцыі Уладзімір Мацвееў пацвердзіў інфармацыю аб вынясенні двух пісьмовых папярэджанняў БПСМ, дадаўшы пры гэтым, што прычынаю абедзвюх з'яўляецца парушэнне грамадскім аб'яднаннем уласнага статута. Гаворка, у прыватнасці, ідзе аб перавышэнні вызначанага ўзроставага цэнзу членамі арганізацыі, а таксама аб наданні некаторым структурным падраздзяленням БПСМ права юрыдычнай асобы. Дарэчы, як нагадаў Уладзімір Мацвееў, другое на працягу года пісьмовае папярэджанне за гэтыя ж парушэнні дае права паставіць перад Вярхоўным судом пытанне аб яго закрыцці.

**Ян АБАДОЎСКІ**

## Саюз левых партый

12 верасня г.г. у Мінску прайшоў кангрэс, на якім каля 30 беларускіх партый і грамадскіх арганізацый левага ўхілу стварыла Народны патрыятычны саюз (паводле ІТАР-ТАСС). Галоўнымі членамі новага Саюза з'яўляюцца пралукашэнкаўская Камуністычная партыя Беларусі, Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Славянскі сабор „Белая Русь" і Саюз адстаўных афіцэраў. Лідэр камуністаў Віктар Чыкін сказаў, што Саюз падтрымае Лукашэнку на чарговых прэзідэнцкіх выбарах. Кангрэс ухваліў заклік да беларускіх улад, каб у чэрвені 1999 г. правесці ўсенародны рэферэндум у справе даверу прэзідэнту Лукашэнку і лідэрам апазіцыі.

*RFE/RL Newsline, 14.09.1998*

## Ліміты продажу

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выдаў указ, які дазваляе афіцыйна абмяжоўваць продаж асноўных харчовых прадуктаў ды вырабаў шырокага спажывання (ІТАР-ТАСС, Асошэйтыд-прэс). Паводле ўказа абласныя ўлады могуць устанаўліваць такія абмежаванні ды штрафаваць да 100 мінімальных зарплат (прыблізна 450 дол. ЗША) прадаўцоў, якія ліміты гэтыя парушаюць. Указ прадугледжвае таксама канфіскацыю тавараў, якія экспартуюцца ў Расію з „парушэннем устаноўленых прынцыпаў". Адміністрацыя прэзідэнта заявіла, што ўказ з'яўляецца часовай мерай, а ягоная мэта — спыніць цяперашні набег на крамы. Услед за катастрофай расійскага рынку беларускі рубель рэзка ўпаў, а пакупнікі, спадзеючыся росту цэн, агольваюць паліцы ў крамах.

*RFE/RL Newsline, 14.09.1998*

## Кантроль алкаголю і папяросаў

Інтэрфакс паведаміў, што 10 верасня г.г. на пасяджэнні ўрада прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка дамагаўся выцясніць „усе злачынныя структуры" з рынку алкаголю і папяросаў, на які дзяржава мае манаполію. Прэзідэнт сказаў, што каля 25 працэнтаў беларускага рынку тытунёвых вырабаў знаходзіцца пад кантролем злачынных груп. А. Лукашэнка загадаў праваахоўным органам і службам бяспекі больш строгі кантроль вытворчасці ды продажу спіртных і тытунёвых вырабаў. Прэзідэнт перасцярог таксама, што можа скараціць 67 беларускіх спіртзаводаў да ўсяго 10; хіба, што будуць выпускаць яны „высакаякасную гарэлку".

*RFE/RL Newsline, 11.09.1998*

## Гадавіна бітвы пад Оршай

Каля 1000 чалавек 8 верасня г.г. прынялі ўдзел у шэсці Беларускага народнага фронту ў Мінску, якое адзначыла гадавіну перамогі беларускіх войскаў у бітве супраць маскалёў пад Оршай у 1514 г. (паводле Беларускай службы Радыё Свабода). Насуперак афіцыйнаму Мінску беларуская апазіцыя святкуе гэтую гадавіну як Дзень беларускай вайсковай славы. Старшыня БНФ Юры Хадыка, звяртаючыся да ўдзельнікаў шэсця, заклікнуў іх дапамагчы беларусам зразумець сапраўдную сутнасць рэжыму прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, якога назваў ён „псіхічным пенсіянерам". Упершыню ад двух гадоў улады дазволілі апазіцыі правесці шэсце па галоўнай вуліцы Мінска.

*RFE/RL Newsline, 9.09.1998*

## Юбіляр з Гудзевіч

На Гарадзеншчыне, у Магілеўскім раёне (на стыку трох раёнаў — Ваўкавыскага, Бераставіцкага і Мастоўскага) ёсць невялікая маляўнічая вёска Гудзевічы.

Тут знаходзіцца вядомы на ўсю Беларусь і ў блізкім і нават далёкім замежжы Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей. Яго стварэнне і пачатак збору экспанатаў адносіцца да 1965 года, а афіцыйнае адкрыццё адбылося 2 лютага 1968 года. Такім чынам, у гэтым годзе музей ужо адзначыў сваё юбілейнае 30-годдзе.

У музеі 13 залаў (літаратурны, этнаграфічны, народнай медыцыны, гісторыі вёскі Гудзевічы ды іншыя). Колькасць наведвальнікаў музея набліжаецца да 70 тысяч.

Стваральнікам і нязменным кіраўніком музея з'яўляецца былы выкладчык беларускай мовы і літаратуры мясцовай сярэдняй школы, выдатнік народнай асветы Беларусі, адзін з першых кавалераў медаля Скарыны, волат беларускага духу Алесь Мікалаевіч Белакоз. Ён, дарэчы, беластоцкіх радавых каранёў: яго бацька — Мікалай Язэпавіч — паходзіць з вёскі Юраўляны, што ля Шудзялава.

11 верасня гэтага года Алесю Мікалаевічу споўнілася 70 гадоў. Усё сваё свядомае жыццё Алесь Мікалаевіч з незвычайным патрыятызмам і зайздроснай грамадзянскай мужнасцю заўсёды актыўна адстойваў і адстойвае зараз незалежнасць роднай Бацькаўшчыны. Ён вельмі актыўна шчыруе на глебе нашага беларускага нацыянальнага адраджэння і ўвогуле праводзіць велізарную грамадска-палітычную, выхаваўчую і гісторыка-краязнаўчую работу. Ён зацяты абаронца роднае мовы — дзяржаўнасці нашай асновы.

Алесь Мікалаевіч зусім справядліва і аб'ектыўна заслугоўвае таго, каб такая значная падзея ў яго жыцці была адзначана і ў Вашым паважаным тыднёвіку „Ніва".

Дарэчы, ён жа таксама Ваш чытач (падшыўка Вашай „Нівы" беражліва захоўваецца ў музеі).

### Гудзевіцкаму волату — 70

Ёсць асоба на Божым загадкавым свеце,
Пазнаецца якая па гэткай прыкмеце:
Аж да мозгу касцей Беларус ён увесь:
Белакоз — яго прозвішча, імя — Алесь.

Бліз паўвека рупліўца і плённа, і чынна
Нясе крыж на асветніцкай ніве Айчыны.
У мінулым у школе, цяпер жа ў музеі
Дапаможа ў любой разабрацца падзеі.

Цуд-музей стаў сапраўднай народнай крыніцай,
Дзе духоўна, фізічна магчыма лячыцца.
Цуд-музей ад бяспамяцтва лечыць, бязродства,
Ад усякага цяжкага іншага ўродства.

Шчыра рад, што ў тваё сем дзесяткаў гадоў
На Айчыны алтар працаваць ты гатоў.
Дык прымі ж віншаванне з такое нагоды
Ды здаровым жыві яшчэ доўгія годы!

**Алесь ЛЯСКОЎСКІ,**
**в. Сугакі Ваўкавыскага р-на**

## Калі грошы таннеюць, насельніцтва пачынае ўсё скупляць?

Таварны ажыятаж, які „трасе" Расію, дакаціўся і да Беларусі. Людзі пачалі скупляць яшчэ „танныя" імпартныя тавары, складаную бытавую тэхніку айчыннай вытворчасці, дываны, мэблю і нават пасцельную бялізну.

У Мінску ў буйных магазінах ужо з раніцы каля секцый па продажы складанай бытавой тэхнікі замежнай вытворчасці выстройваюцца чэргі. З імпартных тавараў добра купляюць амаль усё: кававаркі, прасы, печы СВЧ, кухонныя камбайны, халадзільнікі, маразільнікі, пыласосы і нават далёка не танныя пральныя машыны. Трэба заўважыць, што найбольшым попытам карыстаюцца якраз пральныя машыны з Італіі, такія як Ariston і Indesit, коштам ад 50 да 80 мільёнаў рублёў. Пральныя машыны, халадзільнікі і пыласосы цэлымі партыямі ў магазінах скупляюць па безнаяўнаму разліку камерцыйныя фірмы.

За некалькі апошніх дзён амаль цалкам „размялі" ў магазінах тэлевізары Samsung па старому кошту ў 41 мільён рублёў. Новая партыя гэтых жа тэлевізараў будзе каштаваць ужо 71 мільён рублёў. На хвалі ажыятажу пачалі добра купляць тэлевізары айчыннай вытворчасці — „Гарызонт" і „Віцязь". Амаль скончыліся па старых цэнах у магазінах відэамагнітафоны імпартнай вытворчасці, падняўся попыт на ўсю тэлевідэа- і аўдыёапаратуру вядомых фірмаў PHILIPS і SONY.

Сапраўдны набег учынілі гаспадыні на аддзелы, у якіх прадаюць кухоннае начынне. Скупляюць танныя айчынныя каструлі, чайнікі і вёдры. У магазінах нават увялі нормы водпуску на эмаліраваныя вёдры. Раней можна было купіць у адны рукі 5 вёдзер, зараз — толькі два.

*„Звязда", № 174 ад 4 верасня 1998 г.*

## Заклік да разрыву з Расіяй

8 верасня г.г. лідэр-выгнаннік Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк заклікнуў беларусаў „адрэзацца ад паміраючай расійскай імперыі" (БелаПан). У адозве з нагоды Дня беларускай вайсковай славы назваў ён цяперашні эканамічны крызіс у Расіі „пачаткам развалу расійскай імперыі". З. Пазьняк перасцярог беларусаў перад „расійскімі імперыялістамі", якія перад сваёй „агульнай фінансавай катастрофай хочуць хутка анэктаваць Беларусь". Абвінаваціў ён беларускі ўрад у дапамозе Расіі, а беларусаў заклікаў адстойваць сваю дзяржаўнасць і незалежнасць.

*RFE/RL Newsline, 9.09.1998*

# Такая вёска была!



У Меляшкі ў Гарадоцкай гміне зноў едуць людзі. Працаваць. У **школу**.

— Бо ў нашай школе фабрыка цяпер працуе, — расказвае Ніна Пятэльская. — Год будзе, як шыюць рабочае адзенне, рукавіцы, курткі. Той *улох*, Марыё, што боты хацеў у нас прадукаваць італьянскія, ці то не разлічыўся, ці то не пайшла яму работа, ці то тыя боты не сталі яму купляць, — зрокся свайго бізнесу. Машыны свае забраў. Нейкі з Варшавы бізнесмен прыехаў, выкупіў ці ўзяў у арэнду нашу былую „тысячагодку”, паставіў свае машыны. Народ „пэкаэсам” даязджае, дадатковы рэйс далі. Людзі на працу едуць з Гарадка, з Міхалова, зусюль. Бо ў нас усе старыя, адно Лілька солтысава ходзіць „у школу”. І Вітак Латыш, муж ейны, солтыс наш, там крыху рабіў электрыкам, бо ж машын там многа, паладзіць дзе што трэба. А тут такая бяда...

Страшна было па вёсцы хадзіць, такі час быў. Ад зімы васьмёра ў нас памёрлі! Во як з Кастэнцікам было, доўга хварэў, у шпіталі ляжаў. Жонка жыла пасля пахавання яшчэ тры тыдні за адной вадой, ніц не ела. Высахла на трэсачку. Прайшоў тыдзень — умёр Вільбік. Пахавалі. Жонку меў хворую, лечылася на нервы. Перажыла ж вельмі пахаванне. Вызвалі мы „пагатове” з бальніцы да яе, але адмовіліся ўзяць, старую, і яна да рання ўмерла. Просто — трывога ў вёсцы... А найгорш то выйшла з нашым солтысам. Суседка Марыся ўмерла, то ён, як солтыс і сусед, паехаў памагчы бедным людзям (Марыся ўжо год пяць як не бачыла, спраўлялася якась адна жанчына ў хаце; пабыла тыдзень у шпіталі, там і памерла). Паехаў Вітак у Гарадок памагчы капаць дол пад магілку. Хацеў папрвіць, каб усё рыхтык было, як з другога помніка крыж зваліўся, акурат яму на галаву. Малодшыя якась з долу павыскаквалі. Вітак адразу страціў прытомнасць. Карэтка скорай дапамогі зараз прыехала, узяліся яго ратаваць, павезлі ў бальніцу. Чатыры ўжо аперацыі на твары зрабілі. Якась усё перанёс, малады, моцнае сэрца мае. Не пазнаць твар у Вітака, панашывалі швоў, пашчэнка пабітая, есці не мог. Цяпер лямпамі тыя швы яму разаграваюць. Дзякуй Богу, усё з чэрапам добра, усё памятае. Вітак Латыш — адзін з маладзейшых людзей у вёсцы, таму мы яго за солтыса выбралі. Сам ён родам з-пад Вострава, прымаком у Меляшках. Адзін сын у арміі (якраз да прысягі быў, то не паведамілі адразу яму пра бяду ў хаце, пасля прысягі адпусцілі яго дахаты на тыдзень), двух хлопцаў у Беластоку вучацца, чацвёрты даязджае ў школу ў Гарадок. Цяжка цяпер Лільцы адной справіцца з немалой гаспадаркай. Малако завязе ў злеўню на Калёнію Меляшкі, пасля ідзе ў „школу”...

Рэшта, апроч Латышоў, у нас усе *рэнцісты*. Хто дае рады, то і робіць. Вось Якубу Карповічу — 94 гады. Да Якуба дачка часта прыязджае, папрача яму, памые, прывязе харчы, бо ў нас цяпер крамы няма ў вёсцы, адно выглядаем, калі абвозная прыедзе, ды часам і не ўпільнуеш. Якуб пры памяці, і наварыць сабе ўмее, і фасолю, казаў, садзіў, палоў, сабраў. Але, казаў, то мусі зімы не выдзяржыць, цяжка яму печкі тапіць. Паедзе да дачкі. Баба Тамашыха (Люба Лавіцкая, сястра „нашаніўца” Янука Дарашкевіча), якой ужо дзевяноста шэсць, перасялілася да дачкі ў Гарадок, хоць цяжка было сваю хату пакідаць...

Пустая вёска будзе. А такая вёска была!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Ардынацыя змяніла сітуацыю

**Пра падрыхтоўку праваслаўнага асяроддзя да самаўрадавых выбараў расказвае Яўген ЧЫКВІН, галоўны рэдактар „Przeglądu Prawosławnego”.**

Да самаўрадавых выбараў праваслаўнае асяроддзе рыхтавалася ўжо ад студзеня мінулага года. Асноўваліся мы на Праваслаўным выбарчым камітэце, які існуе ад чатырох гадоў; мелі мы ўжо сваіх кандыдатаў. Разлічвалі мы таксама на зацікаўленне і ўдзел Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Згуртавання славянскіх меншасцей „Праваслаўныя” і дзеячаў царкоўных брацтваў. Спадзяваліся таксама ўдзелу і другіх беларускіх арганізацый.

Наша ацэнка сітуацыі памянялася, калі Сейм прыняў новы закон аб выбарах (ардынацыю) — крайне некарысны для малых груповак, затое выразна выгадны вялікім партыям. Гэты закон надзіва згодна падтрымалі і Саюз левых дэмакратаў, і Выбарчая акцыя „Салідарнасць”; спакуса прыбраць электарат малых груповак была ў іх намнога большая, чым патрэба існавання апошніх.

Нам выходзіла, што калі б у Беластоку атрымалі мы каля 10% галасоў — як чатыры гады таму, калі прайшло трое нашых кандыдатаў, дык цяпер маглі б мы атрымаць адзін мандат, або і зусім нічога. У гэтай сітуацыі мы рашылі шукаць кааліцыянта, з якім былі б шансы на больш. Далі таксама нашым кандыдатам свабоду: калі хто з іх захоча балаціравацца з другога выбарчага спіска, тады мы яго падтрымаем. Ну і так сталася.

У жніўні выбарчы камітэт СЛД і Уніі працы запрапанаваў нам старт з іх выбарчага спіска. Частка нашых кандыдатаў згадзілася на гэта і там балаціруецца. Гэтак у Беластоку, а ў глыбінцы яны балаціруюцца са спіска СЛД, або УП і ПСЛ.

У Ваяводскую раду з горада Беластока кандыдуе Яўген Чыквін, з акругі Бельск-Гайнаўка-Сямятычы — Ян Зенюк, а з Беластоцкага павета Славамір Галіцкі. У павятовыя рады кандыдуюць напр. у Гайнаўцы — Уладзімір Петручук з Дубіч-Царкоўных, а ў Сямятычах — Сяргей Шчыгал.

У Гарадскую раду ў Беластоку ў пасобных выбарчых акругах кандыдуюць: Антон Міранoвіч (акруга н-р 1), Віталь Бонда (2), Пётр Бурак (3), Марк Масальскі (4), Яраслаў Матвеюк (5), Рыгор Падляскі (6), Пётр Крук (7) і Славамір Назарук (8).

Мэтаю нашай прысутнасці ў самаўрадавых органах з'яўляецца ўплыў на іх дзейнасць, а асабліва спрыянне таму, што служыць мясцовым грамадствам. У нашым рэгіёне перад намі яшчэ і спецыфічныя задачы: ахова перад спробамі ўвядзення нацыянальных і канфесійных крытэрыяў пры наборы на працу і павышэннях ды справядлівыя і раўнапраўныя адносіны да школьніцтва і культуры меншасцей. Хочам таксама спрыяць трансгранічнаму супрацоўніцтву. Будзем супрацьдзейнічаць канфрантацыям, асабліва паміж СЛД і АВС — нас яна не цікавіць.

Калі кранаць Царкву, дык спадзяемся, што святары згадаюць пра ўдзел праваслаўных кандыдатаў і заахвоцяць вернікаў да ўдзелу ў выбарах. Балючым з'яўляецца пасіўнасць, абыякавасць нашага грамадства, якое здае свае пазіцыі другім.

Запісаў **Аляксандр Вярбіцкі**

# Кандыдаты БНВК зарэгістраваны

11 верасня 1998 года Беларуска-народны выбарчы камітэт, што паўстаў у Гайнаўцы, зарэгістраваў сваіх кандыдатаў на радных у Раду павета і рады гмінаў.

— Што тычыцца паветаў, дык паставілі мы кандыдатаў ва ўсіх акругах. Радных выбіраць будзем паводле спіскаў, якія зарэгістравалі партыі, таварыствы і камітэты выбаршчыкаў. Мы менавіта зарэгістраваны як камітэт выбаршчыкаў, — гаворыць старшыня БНВК Міхал Голуб. — У горадзе Гайнаўка ў дзвюх акругах зарэгістравалі мы 11 кандыдатаў і столькі ж там прадбачваецца і радных. У акрузе, якая ахоплівае гміны Белавежа і Гайнаўка паставілі 4 кандыдатаў, у акрузе Чаромха, Дубічы-Царкоўныя, Кляшчэлі — 6, а ў акрузе Чыжы, Нарва, Нараўка — 7. У агульным на 25 мандатаў прапануем 28 асоб. Калі гаварыць пра выбары ў рады гмінаў, дык у горадзе Гайнаўка выбіраць будзем радных у пяці акругах. На 28 мандатаў прапануем да выбару 49 нашых кандыдатаў. Што тычыцца іншых гмінаў, дык будзем выбіраць на Гайнаўшчыне ў аднаасобных акругах. У тых акругах, дзе зараз зарэгістраваны толькі па адным кандыдаце, рэгістрацыя прадоўжана яшчэ на пяць дзён і толькі тады можна будзе сказаць пра колькасць нашых кандыдатаў.

**Аляксей Мароз**

# Раскол „па-над падзеламі”

[1 ☞ працяг]

змагаюцца два камітэты з падобнымі назвамі, гэта практычна немагчыма.

„Камітэт па-над падзеламі” выставіў свае спіскі толькі ў трох акругах: у дзвюх гарадскіх і ў Бельскай гміне. Не знайшоў кандыдатаў у Браньску, Рудцы, Вышках, Боцьках ці хаця б у Орлі.

Бельская кааліцыя паставіла максімальную лічбу кандыдатаў у гарадскую і павятовую рады і семнаццаць на дваццаць магчымых кандыдатаў у Раду гміны Бельск-Падляшскі.

Беларускія кандыдаты (рэкамендаваныя Бельскім аддзелам Беларускага грамадска-культурнага таварыства) у Гарадскую раду Бельска, гэта, між іншым: бурмістр **Андрэй Сцепанюк**, член Гарадской управы **Аляксандр Божка**, гісторык **Славамір Іванюк**, настаўнік і паэт **Юры Баена**, настаўніца беларускай мовы **Анна Бжазоўская** і віцэ-дырэктар „тройкі” **Мікалай Вязоўскі**, дырэктар Бельскага беларускага ліцэя **Зінаіда Навіцкая** і былы дырэктар гэтай школы **Аляксей Карпюк**, арганізатар Таварыства інвалідаў „Шанц” **Ян Кастэцкі** і член калектыву „Маланка” **Канстанцін Селевановіч**.

За месцы ў Бельскай павятовай радзе змагаюцца, між іншым: дырэктар Пачатковай школы н-р 3 **Васіль Ляшчынскі**, дырэктар Бельскага дома культуры **Сяргей Лукашук**, дырэктар Гарадскога прадпрыемства ацяплення **Мікалай Самоцік**, **Рыгор Суліма** — дырэктар бельскага элеватара, дырэктары пачатковых школ у Ягуштове **Валянцін Гліва** і ў Крывой **Яўген Хількевіч** ды гаспадар з Пасынак **Аляксей Крукоўскі**.

**Мікола Ваўранюк**

# У народзе як у карагодзе

Цяпер адбываецца выбарчая барацьба, і многія стартуюць кандыдатамі на радных. Сярод іх ёсць такія, якія абяцаюць нам залатыя горы і дабрабыт тут на месцы. Напэўна сярод іх ёсць добрыя людзі і даў бы Бог, каб яны прайшлі ў выбарах. Але балаціруюцца і такія, якія на сваіх аднасяльчан глядзяць з пагардаю і насмешкай: у іх ёсць горшыя і лепшыя, а на прывітанне ён або нешта буркне, або і нічога не адказа. І хай такі нават назбірае тых 50 подпісаў, каб папасці на выбарчы спісак, аднак людзі за такімі не пойдуць, бо людзей сёння не абманеш і не настрашыш. Бяда аднак у тым, што беларусы хочуць выгадна абысці выбары бокам, а калі і пойдуць, могуць аддаць галасы не на сваіх, а на нейкіх прайдзісветаў. Народны абраннік павінен быць чалавекам кемлівым і справядлівым, дапамагаючым бліжняму ў бядзе. Не можа ён быць надзьмуты, як салдацкая вош, ды дзяліць людзей на лепшых і горшых, дзе лепшыя — гэта яго падлізы.

Падчас апошніх самаўрадавых выбараў адна вельмі ганарыстая жанчына папрасіла мяне і маю сям'ю аддаць нашы галасы за яе. Аднак яна не прайшла і „падлічыла”, што менавіта мая сям'я аддала галасы не за яе, а за другога. Не слухала яна маіх тлумачэнняў і сёння да мяне не адзываецца. І таму гавару: за ганарыстых і эгаістаў галасы не аддавайце, а толькі за справядлівых і спакойных.

**Мікалай Панфілюк**

# Ветэраны-„хуліганы”

**Абявязкова прыйдзем на выставу мастацкага згуртавання „Пагоня” прысвечаную Язэпу Драздовічу, — абяцаў Алесь Карызна. — Са сцяжкамі, як заўсёды, будзем, мы, ветэраны. Сёння (27 жніўня) мы тут, 8 верасня будзем святкаваць гадавіну Аршанскай бітвы.**



*Алесь Карызна на выставе творчасці Аляксея Пятрухны.*

Аляксандр Юстынавіч Карызна — намеснік старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання „Ветэран". Працуем, кажа, не вельмі актыўна, але ў рэчышчы беларускай ідэі — блізка ўспрымаем ідэю незалежнай беларускай дзяржавы і яе суверэнітэту, беларускай мовы і беларускія прыярытэты.

Арганізацыя вольная, і гэтым нагадвае польскае БДА — няма білетаў, прымаюцца толькі заяўкі на ўступленне. Не плацішца ўзносаў.

— Займаемся і сацыяльнай дапамогай. Раней атрымлівалі нейкую дапамогу ад розных фондаў — харчовую, лекавую і нават у рэчах, вышуквалі найбольш патрабуючых, бедных. Цяпер гэтыя фонды закрыты, у нас на рахунку няма ніякіх грошай, бо ж не займаемся ніякай камерцыяй, а дзяржава нас не падтрымлівае. Але ва ўсіх імпрэзах, якія тычацца нашых нацыянальных спраў, прымаем актыўны ўдзел — ва ўсіх шэсцях, пікетах, выставах. Адзначаем Дні незалежнасці Беларусі. Наша арганізацыя невялікая, таму што розгаласу няма — не маем доступу да радыё, тэлебачання. Калі мы ўдзельнічалі ў акцыях, многія з нас атрымалі пакаранні. Я асабіста атрымаў 5 сутак пасля Чарнобыльскага шляху, сядзеў у вязніцы. На нас, старых, АМОНаўцы налядзелі. Мяне атруцілі газам, парвалі бел-чырвона-белы сцяжок. Штраф заплаціў. Абвінавацілі мяне ў хуліганстве, быццам я кагосьці абражаў, штосьці непрыстойнае крычаў у адрас прэзідэнта. За адно „Жыве Беларусь!" шмат хто з нас, старых, пацярпеў.

Старшынёй БДА „Ветэран" з'яўляецца Артур Вольскі, вядомы дзіцячы пісьменнік, які працуе ў Тэатры юнага гледача ў Мінску.

— У нас большасць — інжынеры, настаўнікі, выкладчыкі вышэйшых школаў, пісьменнікі, словам — інтэлігенцыя. Быкаў таксама сустракаўся з намі, Барадулін і іншыя мастакі слова і пэндзля. Сустракаемся ў сядзібе Беларускага народнага фронту. Сетка ў нас не вельмі разгалінаваная, маем філіялы м.інш. у Гародні (вельмі актыўная суполка), у Пінску, Наваполацку, Віцебску. Для рэгістрацыі мы павінны былі мець філіялы. Маем свой рэгістрацыйны нумар, але не маем рахунку. У вялікія святы ўскладаем вянкі, як напрыклад у Дзень перамогі (там мы атрымалі па гарбах, міліцыянеры не дапусцілі нас унесці вянок ад неадпаведных ветэранаў на Плошчу перамогі). Ветэраны „дзяржаўныя", „лукашэнкаўскія" „вродзе" бы нас не прызнаюць, але мы зарэгістраваныя. Рэгістрацыю мы мелі раней, але нас скасавалі, каб мы перарэгістраваліся ў 1996 годзе. Праблемы з гэтым мелі мы вялікія. Прымусілі нас нават мяняць статут. Вольскі хадзіў, хадзіў, аж пачалі нервы яму здаваць, — расказвае ўсхваляваны Алесь Карызна. — Абышлося ўсё. Сімволіка не падабалася, то зноў нам спрабавалі тлумачыць, што ў Беларусі ёсць ужо арганізацыя ветэранаў. Нашы жанкі неадназначна адносяцца да нашай дзейнасці (маўляў, чаго валачы старыя косці ў небяспечнае месца, чаго пхацца ў палітыку, лепш цішэй дажыць свае смерці). Сярод нас ёсць шмат жанчын. Вось у Мінску ёсць гарадская арганізацыя, ёсць і раённыя (7 у самім горадзе), і ў асноўным складаюць яе жанчыны, свядомыя беларускі, якія ведаюць, хто мы і якія ў нас заданні. Несвядомых, „саўковых" жанчын у нашай арганізацыі не бывае. Дарэчы, несядомы ў ніякую беларускую арганізацыю і не пойдзе, ва ўласнай свядомасці будзе пытацца: „А што я ад гэтага буду мець?"

Аляксандр Юстынавіч Карызна нарадзіўся ў Расіі. Бацькі, добрыя гаспадары, былі вывезены ў 1928 годзе з вёскі пад Мінскам. Пасялілі „кулакоў" на далёкай Поўначы, пасля вывозілі яшчэ два разы. Бацьку расстралялі ў 1937 годзе. Маці з сынам вярнуліся на Беларусь вясной 1946 года. У 1995 годзе бацьку рэабілітавалі. Аляксандр атрымаў нават кніжку „ахвяры палітычных рэпрэсій". Там прадугледжваюцца розныя льготы, істотныя для пажылога чалавека, але цяпер яны ліквідаваны. Сітуацыя ў сённяшняй Беларусі асабліва цяжкая для іх, ветэранаў вайны і працы, хоць прывыклых да нягод. — Нам, старым, асталося чакаць, што зменіцца на карысць для Беларусі. На працягу кароткага часу колькі мы страцілі! — І прэсу беларускую, і беларускую адукацыю, і сімвалы, канстытуцыю! Ідзе шырокі наступ на ўсё беларускае гэтага антынароднага рэжыму. Як можна стаяць збоку?

Спадар Карызна цёпла ўспамінае „Ніву", з якой ён пазнаёміўся больш за трыццаць гадоў таму.

— Падпісваўся на яе больш дзесяці гадоў, атрымоўваў бандэроллю. Чытаў я яе не адзін. Для нас „Ніва" была нейкім прагрэсіўным выданнем. У ёй можна было прачытаць пра беларушчыну куды больш чым у савецкіх выданнях. Я і сёння памятаю, што ў „Ніве" я пазнаёміўся з Алесем Салаўём і радкі: „На апошні паўстанак заехаў, больш ехаць няма куды". Я вельмі шкадую, што згубіў сувязь з вамі. Калі б была магчымасць выпісаць „Ніву", я б з задавальненнем гэта зрабіў. Знайшлося б досыць шырокае кола, каб падпісацца на яе хоць бы сярод нас, ветэранаў, і не толькі. Прывітанне ад нас усім ніўцам. Ага, і абавязкова спадарыні Альжбеце Смулэк! Яна і да нас адносілася з вялікай цеплынёю, зразуменнем нашых спраў. І мы яе вельмі паважаем. Гэта вялікі для нас чалавек. Яна многа зрабіла для Беларусі, для кантактаў польска-беларускіх. Скажыце спадарыні Альжбеце, што мы яе памятаем!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Змаганне Рыдза з праваслаўем

У гэтым годзе мінае шасцідзесятая гадавіна разбурэння праваслаўных цэркваў у ІІ Рэчы Паспалітай. У 1937 годзе санацыйны лагер, аб'яднаны вакол асобы маршалка Эдварда Рыдза-Сміглага, вырашаў паскорыць працэс паланізацыі беларусаў і ўкраінцаў больш радыкальнымі метадамі і знішчыць усе элементы, якія спрыялі захаванню тоеснасці гэтых народаў. Інакш выглядала, аднак, сітуацыя ўкраінцаў, а інакш беларусаў. Таму і метады прынятыя ў адносінах да абедзвюх нацыянальных груп былі розныя.

Па прычыне таго, што эксперыменты з паланізацыяй царкоўнага жыцця сярод беларусаў прайшлі паспяхова, санацыйныя палкоўнікі дайшлі да вываду, што Царква можа стаць побач Каталіцкага касцёла, школы, паліцыі і адміністрацыі яшчэ адной установай, якая будзе спрыяць пераўтварэнню беларусаў у палякаў. Сярод украінцаў такі варыянт выкарыстання Царквы быў немагчымы. Таму ўлады вырашылі знішчыць ім усю структуру рэлігійнага жыцця. Летам 1938 года польская армія разам з лакальнай адміністрацыяй пачалі акцыю разбурання цэркваў на Холмшчыне, Падляшшы і Валыні. Больш за сто храмаў былі разбураны, спалены, а ў найлепшым выпадку пераўтвораны ў каталіцкія касцёлы. Даследчыца гісторыі праваслаўя Міраслава Папежынска-Турак пісала, што ў 1938 годзе наступіў проста выбух варожасці католікаў да праваслаўных. Нішчэнне цэркваў вынікала не толькі са стратэгічных планаў улад Рэчы Паспалітай, але таксама праходзіла ў выглядзе спантаннай актыўнасці каталіцкага грамадства (*Między tradycją a rzeczywistością. Państwo wobec prawosławia 1918-1939*, Warszawa 1989, ss. 353). Разбурэнне сабора Аляксандра Неўскага ў Варшаве адбывалася пры воплесках тысяч жыхароў гэтага горада.

На Беласточчыне і Гродзеншчыне ўжо ад 1935 года дзейнічалі структуры Згуртавання праваслаўных палякаў. Гэтая арганізацыя, якая ўзнікла па ініцыятыве паліцыі і адміністрацыі, прыхільнікі трыццатых гадоў стала вельмі актыўнай. Аб'ядноўвала яна між іншым маладых святароў, якія былі энтузіястамі змены культурнага характару праваслаўя ў Польшчы. Праваслаўныя палякі не пратэставалі таксама супраць разбурання цэркваў у Гродне і Беластоку, а нават апраўдоўвалі такія дзеянні ўлад.

4 лютага 1938 г. Гарадская рада Гродна вырашыла разбурыць царкву св. Аляксандра. Адначасова Рада прыняла пастанову пабудаваць у гэтым месцы помнік свабоды ў гонар дваццацігоддзя адраджэння Польшчы. Падчас галасавання ўстрымаліся толькі яўрэйскія райцы. 30 сакавіка падобнае рашэнне адносна лёсаў сабора Уваскрэсення Гасподняга ў Беластоку прыняла таксама мясцовая Гарадская рада. І тут супраць такой пастановы Рады галасавалі толькі яўрэйскія сацыялісты. У адным і другім выпадку рашэнне ўлад аргументавалася тым, што згаданыя цэрквы будаваліся дзеля замацавання расейскага панавання.

Уваскрэсенскі сабор у Беластоку стаяў пры плошчы Свабоды (сёння вул. Сянкевіча), там сама, дзе цяпер знаходзіцца Ваяводская камендатура паліцыі. Спачатку прабавалі разабраць храм па адной цагліне, але паколькі дэмантаж цягнуўся надта доўга і ўзраслі кошты, улады вырашылі пакарыстацца выпрабаванымі савецкімі метадамі і проста ўзарвалі царкву дынамітам.

У Гродне некаторыя беларускія святары прабавалі арганізаваць праваслаўнае грамадства да нейкай акцыі пратэсту супраць наяўнага варварства. Аднак абыякавае стаўленне ў гэтай справе мясцовага епіскапа Савы (Саветава), вялікага прыхільніка „руху праваслаўных палякаў", суцішыла атмасферу вакол царквы св. Аляксандра. Згуртаванне праваслаўных палякаў афіцыйна адмовілася ад усялякіх пратэстаў у гэтай справе, выказала зразуменне для дзеянняў польскіх улад і падала прашэнне дазволіць выкарыстаць цэглу з разбуранай царквы на пабудову Дома праваслаўных палякаў у Гродне. Згуртаванне атрымала таксама дазвол на пабудову новай царквы Уваскрэсення Гасподняга ў гонар дваццацігоддзя адраджэння Польшчы. 3 мая 1938 г. епіскап Сава асвяціў краевугольны камень пад гэты храм. Адначасова ўлады не дазволілі святкаваць у цэрквах юбілей 950-годдзя хрышчэння Русі. Святары, якія ў нейкі спосаб адзначылі гэту гадавіну, вымушаны былі тлумачыцца на паліцыі.

У канцы трыццатых гадоў Царква ў Заходняй Беларусі штораз больш ангажавалася ў дзяржаўную, патрыятычную дзейнасць сярод сваіх вернікаў. 6 верасня 1938 г. епіскап Сава адслужыў у гродзенскім кафедральным саборы падзячную літургію за далучэнне часткі Чэхаславакіі да Польшчы. Святкаванне дзяржаўных свят, імянінаў прэзідэнта і маршалкаў упісалася ў пастаянную практыку царкоўнага жыцця на беларускіх землях. Вайна спыніла гэты цікавы эксперымент з выкарыстаннем механізму знішчэння нацыі яе ўнутранымі сіламі. Вопыт, аднак, астаўся.

**Яўген Мірановіч**

**Міхаль Пашкоўскі**

# Гісторыя аднаго сужонства

У школе лічыўся ён донжуанам. Сваімі акцёрскімі схільнасцямі і ўмельствам лёгкага ўстанаўлівання знаёмстваў удала марочыў у галаве не адной дзяўчынцы-падростку. Наіўныя малалеткі бяздумна бурылі свае, часта шматгадовыя сяброўствы за адзіны ягоны позірк. Дурэлі, калі рослы, стройны Уладзік запрашаў іх у кіно, кафэ або на звычайны шпацыр. Рабілі гэта так, каб усе знаёмыя аб гэтым ведалі, каб наўкол аж гучэла. Што з таго, калі нехта не зайздросціць? Ведаў аб сваёй паспяховасці і манеры Уладзік і ўсялякімі спосабамі гэта выкарыстоўваў. Паверыў ён у сваю абсалютную ўсёмагутнасць і беспакаранасць. Але дзяўчаты не скардзіліся. Хутчэй аплявухваліся ўзаемна, чым сказаць нешта ў абразу Уладзіку.

Таіса пачала вучобу ў тэхнікуме ад трэцяга класа. Пераехалі ў Беласток з вёскі. Бацьку памятала як у сне. Памёр на пачатку яе дзяцінства. Выхаваная разам з малодшым на два гады братам, атрымала суровае, але якое ж шчаслівае і добрае выхаванне. Не прадбачыла толькі маці нячуласці гэтага свету на ўражлівасць і пачцівасць.

Пачатак школьнага года ў новай школе быў для Таісы нетыповым. Тым больш, што побач дырэктара сядзеў пракурор, які потым доўга гаварыў на тэму разбояў і гвалтаў сярод моладзі.

— Гэта пра Уладзіка! — штурхнула Таісу ў бок аднагодка, з якой паспела на хаду пазнаёміцца. — Я з ім хадзіла! — дадала ганарыста.

Тая адно зразумела: таго Уладзіка дакараюць за распусны ўчынак.

— Хто гэта такі? — дапытвалася сваіх новых сяброўак.

А тыя спазіралі на сябе і, стукаючы пальцам у лоб дурнавата хіхікалі, што як гэта так, моў, не ведаць найпрыгажэйшага ў школе хлопца?! Гэтае здарэнне з Уладзікам яшчэ больш узмацніла зацікаўленне ім з боку дзяўчат.

— Чыстая аплявуха! Не захацеў паненкі, дык выдумала і паліцыі напляла! — выказвалі адна перад другой свае абурэнне ў абарону Уладзіка.

Таіса, непрыкметна калі, сама трапіла ў ягоныя сеці. Перамагла звычайная дзявочая амбіцыя. Чаму не я? Уладзік таксама вельмі хутка накіраваў сваё зацікаўленне, пераліваючы прыхільнасць на невысокае, прыгожае, зграбнае, з нявінным позіркам дзяўчо. І пачалося. Не пакідаў яе нават на крок. Хадзіў за ёю як цень. А яна расла, бачачы, як ёй зайздросцяць. Нават маці, калі першы раз запрасіла яго Тая дадому, Уладзік прыпаў даспадобы.

— Такі гаварлівы! Такі вясёлы! Мужчына, проста пазайздросціць! — хваліла, сочачы за дачкой.

Разлучалі іх толькі ўрокі і ноч, якая сілаю такога, а не іншага парадку размяшчала іх па сваіх хатах. Караціў час, прыклікаючы сябе ў снах.

Час ішоў. Уладзік як новааб'яўлены геадэзіст з латаю і палікамі прамерваў поле, а Таіса шукала шчасця, здаючы ўступны экзамен на псіхалогію ў Варшаве.

— Здавала я тыя экзамены так, каб не здаць. От, проста, каб учыніць ласку маме. Не ведаю, ці было гэта каханне, ці звычайная заваражанасць, але ўжо самая думка, што я буду ў Варшаве, а ён будзе ўсміхацца да іншых, сціскала зайздрасцю. Зараз усё гэта смешыць, а вопытнасць часу раскрывае дзявочую наіўнасць, — кажа Таіса, сёння ўжо саракагадовая маці дарастаючых дзяцей. — Але жыцця не вернеш і не выправіш памылак, — дадае.

А Уладзік, відаць, таксама не любіў, калі нешта без яго дазволу ўцякае яму з рук. Калі толькі Таіса паявілася ў Беластоку пасля экзаменаў, паставіў ёй канкрэтнае пытанне:

— Выйдзеш замуж за мяне?

Дзяўчо аслупянела знянацку і ці з простай непрадуманасці, ці са звычайнай пыхлівасці, а мо толькі так каб нешта сказаць, кінула ў адказ:

— Калі аформіш так, каб не забралі цябе ў армію!

Заспорылі. Некалькі візітаў у знаёмых лекараў, і ва Уладзіка выкрылі сур'ёзную хваробу сэрца. І згодна з прыказкай: „Вырас грыбом — лезь у кошык!" Таіса стала жонкай Уладзіка. Не зазнаўшы на добрую справу смаку бесклапотнай дзявочай маладосці, вельмі хутка пачула цяжар абавязку жонкі і горыч сужыцця замест асалоды. На маладыя плечы зваліўся абавязкам муж. Ужо ў шлюбную ноч адзінока плакала ў падушку, бо падвыпіўшы муж абтанцоўваў усіх вясельных дзяўчат, а потым недзе да раніцы прапаў. Таіса сур'ёзна глянула на жыццё і прыпомніла школьнае здарэнне. А Уладзік маючы пацверджанне актам шлюбу і словам даным перад алтаром, што Таіса з гэтага часу ўжо яго, пільнаваў тых, якія засталіся незалежнымі. Неаднойчы да самага світанку ўздыхала Тая з маці, у якой жылі, і на кожны гук, далятаючы з вуліцы, беглі да акна глядзець, ці гэта не Уладзік вяртаецца дахаты.

Потым паявіліся дзеці — першы сын, а два гады пазней дачка. Атрымалі кватэру.

— Здавалася, што на сваім будзе інакш. Хаця мама ні ў чым нам не мяшала, наадварот — дапамагала як магла. Калі нешта змянілася, то якраз на горшае. Хадзіла я тады цяжарная з Наталькай, а Юрка меў ніцэлых два гадочкі. Валодзя працаваў таксістам. Ездзіў ноччу, а днём спаў. Я вяла тады краму, якую ўзялі ў арэнду. З жыватом я, малы побач, бо не мела з кім пакінуць. Мужу перашкаджаў спаць. Закрыю краму на абед. Бягу дамоў, каб Валодзю есці зварыць, і зноў на працу! Сам не толькі што не наварыць, але тое, што і я зраблю, то часта на сцяну або падлогу шпурне. Аж няма яго адну ноч, няма раніцай, дзень канчаецца — усё няма. І толькі падвечар паведамілі, што мой муж затрыманы за нахабны напад на жанчыну. Паўтара года я сама з малымі, з двума, бо дачка нарадзілася пад яго адсутнасць. Прабаваў даказваць, што малая — не яго. Хацеў звычайна занізіць сваю віноўнасць. Цяжка было, але спакайней. Думала, што зменіцца. Усё яму даравала.

Але Валодзя не змяніўся. Пасля яго выхаду з турмы дзеці мусілі прывыкаць да бацькі. Асабліва сын, бо дачка і так яго ўбачыла ўпершыню. Калі жыццё пачало ставаць на сваю каляіну, Валодзя ні з таго ні з сяго заявіў, што прадаў машыну і будзе выязджаць у Амерыку. Таіса ведала, што едзе за дзяўчынай, дарэчы, яе сяброўкай. Не перажывала гэтага надта. Дзеці таксама мала што разумелі. Адно, што запамяталі, то тое, што тата будзе прысылаць ім пачкі. Уцешыліся гэтым.

— Шкада было толькі „Мерседэс", бо ён быў куплены за маміны грошы. Калі я пачала дакараць Валодзю за гэта, дык сказаў, што не будзе мець прэтэнзіі да хаты, — расказвае.

Калі Валодзя выязджаў, Юрку было няпоўных чатыры, а Натальцы два гады. Неўзабаве Таіса атрымала ліст з просьбаю згадзіцца на развод. Тлумачыў, што закахаўся і хоча жаніцца. Даўно патухлыя пачуцці Таісы нават не запярэчылі. Яшчэ таго дня пайшла ў суд разведаць, што і як. Развод атрымалі хутка. І Таіса з палёгкай уздыхнула. Дзеці раслі — сын закончыў шосты клас, дачка — чацвёрты. Недзе ад года Валодзя вызвоньвае да дзяцей кожны тыдзень. Абяцаў забраць іх у Амерыку, на экскурсіі. Затое на тэму Таісы пайшлі па раёне плёткі, што п'е, цягаецца з мужчынамі і не дбае пра дзяцей. А дзеці былі дагледжаныя, вучыліся добра, спакойныя. Таіса не ведала ў чым справа. Не ведала, чаму мужавыя бацькі ад яе адварочваюцца. Не ведала ў чым вінаватая, калі яе жыццё — гэта праца і дом. Забыла нават калі была ў кіно. Развеяла яе сумненні Валодзева цётка, якая не любіла Валодзю за яго легкадумнасць.

— Тая дзяўчына яго пакінула і жыве адзін, як калок, — сказала. — Вяртацца дамоў думае.

— Значыць яна разумнейшая за мяне, — падумала Таіса і зразумела яго тэлефоны да дзяцей.

Прыехаў не папярэджваючы і як бы нішто да тае хаты, што абяцаў Таісе ўзамен за машыну. Дзеці за бацькам сталі гарою. Таісе не па кішэні былі камп'ютэры і абеды ў рэстаранах. Цягнула дзяцей да сябе, як магла. Але перамаглі долары. Валодзя, даказваючы ў судзе, што не зможа яна даць дзецям належнае выхаванне і забяспечыць ім матэрыяльны быт, пры дапамозе купленых сведкаў рабіў з Таісы алкагалічку і распусніцу, дабіўся, што дзяцей суд пакінуў пры ім. Такім спосабам адваяваў хату. Таіса зноў пасялілася ў доме сваёй мамы, якая, як бы прадбачваючы гэта, памерла, „звальняючы" месца.

Валодзевы долары кончыліся хутка і дзеці штораз часцей наведваюць маці.

— Вядома — гэта дзеці. Кахаю іх і дапамагаю як магу. Але хацелі яны быць з бацькам, — хай будуць. Не могуць быць падкідышамі. Я іх выгадавала адна і за гэта стала „распусніцай". Баліць, — жаліцца Таіса.

# Язэп Драздовіч у палацы

Удалося мінскай мастацкай суполцы „Пагоня" сарганізаваць выставу ў Палацы мастацтва ў сталіцы.

— Справа ў тым, што суполка „Пагоня" — гэта прайшло праз усе сродкі масавай інфармацыі — не магла арганізаваць выставу да 25 Сакавіка, — расказвае Аляксей Марачкін. — Міністэрства культуры і Саюз мастакоў на гэты раз не спрыялі таму, каб мы адкрылі традыцыйны паказ нашых твораў. Гэта яшчэ раз гаворыць пры дыктатуры на Беларусі з пункту гледжання адносін да культуры. Год таму знялі ў нас 13 прац, яшчэ 2 гады газад у нас быў скандал вакол і нашых інсталяцый, дзе мы паказалі свае думкі адносна сённяшняй палітыкі. Усё ж мы найстойвалі, каб у гэтым годзе — традыцыйна — была выстава ў Палацы мастацтва, паколькі яшчэ Палац мастацтва не ўзяў Іван Ціцянкоў. Ён належыць Саюзу мастакоў, у той час, калі ўжо м.інш. Дом літаратара адышоў к прэзідэнцкай вертыкалі.



*Аляксей Марачкін — выдатны мастак і беларус.*

110 гадоў з дня нараджэння Язэпа Драздовіча гэта для „Пагоні" таксама юбілей.

— У 1996 годзе быў першы пленэр, прысвечаны Драздовічу, — працягвае А. Марачкін. — Да таго далучылі мы і выставу памяці Аляксея Пятрухны. Нашага сябра 14 гадоў таму не стала. Я і Віктар Маркавец працавалі разам у майстэрні. Быў гэта наш маральны абавязак зрабіць і яму выставу, паколькі нам, суполцы „Пагоня", усё ж далі залу ў Палацы мастацтва, і мы гэтыя выставы спалучылі. Тут трэба згадаць, што ўдзельнікі выставы прысвечанай 110-годдзю Язэпа Драздовіча толькі што вярнуліся з Віцебшчыны з пленэра. Прайшліся там сцежкамі нашага героя — Сяргей Рымашэўскі, Аляксандр Родзін, Аляксей Марачкін, Ігар Марачкін, Аляксандр Шатэрнік, Яўген Кулік, Мікола Купава, Галіна Горава (студэнтка-дыпломніца), Валера Шчасны з Верхнедзвінска. У выставе ўдзельнічаюць яшчэ тыя, хто быў і на першым пленэры — Пётра Багданаў, Алег Мацевіч, Ілона Барадуліна, Віктар Маркавец. Мы першыя адкрылі святкаванне юбілею Драздовіча. Пасля нас будзе выстава, даволі шырокая, толькі твораў Драздовіча, у Гістарычным музеі па вул. К. Маркса. Тут у нас прысутнічаюць і арыгіналы самога Драздовіча — яго маляваны дыван, партрэты, куфэрак, скульптура. На жаль, выстава кароткая, толькі да 6 верасня.

У канцы 1996 года ўдзельнікі першага пленэра збіраліся былі завітаць на Беласточчыну, паколькі і тутэйшыя сцежкі пратаптаў Язэп Драздовіч. На жаль, не ўдалося. А скарбы Я. Драздовіча, знойдзеныя на нашай зямлі, дрэмлюць недзе на гарышчы па вул. Варшаўскай 11 у Беластоку.

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### Нарада ў Міёрах

Пава
з Варшавы
І паўлін
з Трнавы
Сустрэліся ў Міёрах.
Там вялі
перамовы
(з перакладчыкам
гракам
з Гандавы)
Ў справе
паўлінавых пёраў.
Ва ўсёй
Еўропе
раілі
Каб такое пяро
Стала Еўропы знакам
З-за формы
і з-за колераў.

Міра ЛУКША

З гісторыі „Зоркі”

# „Зорка” начавала на падушках



*Вера Валкавыцкая — першы рэдактар „Зоркі” і Георгій Валкавыцкі — першы рэдактар „Нівы”.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**У гэтым годзе „Зорка” святкуе сваё саракагоддзе. Пра пачаткі нашай газеты гутарым з яе першым рэдактарам Верай ВАЛКАВЫЦКАЙ.**

***— Хто прыдумаў „Зорку”?***

— Рэдактар „Нівы” Георгій Валкавыцкі. Была такая патрэба. Проста ў рэдакцыю пачалі пісаць дзеці. Пачаткова мы памяшчалі іх творчасць у рубрыцы „Куточак дзецям”. „Куточак” з'явіўся ўжо ў 1957 годзе. („Ніва” пачала выходзіць у 1956 г.). У сувязі з вялікай колькасцю матэрыялаў дзяцей і зацікаўленнем мы рашылі выдаваць асобную газету.

***— Хто прыдумаў ёй назву?***

— З назвай былі праблемы. Спачатку мы хацелі, каб старонкі адведзеныя дзеткам былі азагалоўлены „Газета беларускіх дзяцей”. Аднак гэтая прапанова не спадабалася тагачасным уладам. Яны закінулі нам прапаганду нацыяналізму. „Зорка” — гэта прапанова школьнікаў, якія адгукнуліся на праведзены намі конкурс.

***— Ці былі іншыя прапановы?***

— Многа не было. Памятаю, што спадабалася нам яшчэ прапанова „Каласкі”. Перамагла аднак „Зорка”, здаецца, дзякуючы папулярнай у той час песні на словы Максіма Багдановіча „Зорка Венера”.

***— Як у канцы 50-х гадоў дзеці ўспрымалі „Зорку”?***

— Зразу мелі мы многа чытачоў. Тады ўсе вёскі яшчэ былі беларускамоўныя. Памятаю, калі заязджалі мы ў школу, людзі вельмі цешыліся і перажывалі сустрэчу. Гаварылася нават, што „Ніва” гэта дадатак да „Зоркі”.

***— Якія здарэнні, сустрэчы запамяталіся Вам найбольш?***

— Памятаю, як начавала ў Тарнопалі, у паэта Уладзіміра Гайдука. Тады ён быў яшчэ вучнем пачатковай школы. Пасля напісаў верш пра „Зорку”, якая начавала ў іх хаце. Памятаю таксама, як аднойчы паехала я ў Лешукі на адкрыццё гуртка беларускай мовы. У тыя часы трэба было начаваць па людзях. Аўтобусы ездзілі рэдка, машыны таксама былі рэдкасцю. Мой цягнік у Беласток ехаў у шэсць раніцай. Да таго з Лешукоў на прыпынак было за тры кіламетры. На дадатак стаяў на дварэ вялікі мароз. Нягледзячы на абставіны цэлая школа прыйшла правесці мяне аж на станцыю.

Іншы ўспамін датычыць вёскі Стрыкі на Бельшчыне. Там па прапанове Яраслава Кастыцэвіча наша рэдакцыя дапамагала закладаць беларускую школу. (Так, у той час многія школы працавалі на беларускай мове, а польская мова была дадаткам, як сёння беларуская — Г. К.). Пасля ўдалага завяршэння справы вяскоўцы наладзілі шыкарную гасціну. Спецыяльна для мяне зрабілі танцавальную забаву. А пасля танцаў паклалі спаць на вялікіх, мяккіх падушках.

***— Як з перспектывы 40 гадоў Вы ацэньваеце „Зорку”?***

— Вельмі высока. Мяне надзвычай радуюць займальныя артыкулы маладых карэспандэнтаў-журналістаў. Яны ствараюць гісторыю. Хачу сказаць, што і сёння „Ніва” — дадатак да „Зоркі”.

Гутарыла
Ганна КАНДРАЦЮК

# Tajemniczy język

22 sierpnia tego roku „Klub Tropiciela” i młodzież skupiona wokół redakcji „Zorki”, wyruszyli na pieszą wycieczkę, która trwała dwa dni. Trasa rajdu zaczynała się w Hajnówce, dalej biegła przez Krynoczkę, Lipiny a kończyła się w Budach. Tam też nocowaliśmy. W Budach mieliśmy ognisko, przy którym piekliśmy kiełbaski. Przez cały dzień część młodzieży rozmawiała między sobą po białorusku. Przy ognisku śpiewali piękne piosenki w tym języku. Właściwie było mi obojętne, że oni rozmawiali inaczej niż my. Pomyślałam, że chyba oni lubią ten język. A może rozmawiają bo chcą się go lepiej nauczyć? Nigdy wcześniej nie słyszałam żeby ktoś z młodych ludzi rozmawiał po białorusku. U nas w Białowieży nikt się tym nie interesuje. Myślałam, zastanawiałam się dlaczego oni mówili i śpiewali w języku, którym mówią tylko starzy ludzie? Dowiedziałam się, że uczą się go w szkole na dodatkowych lekcjach. Zacząłem się zastanawiać, czy gdyby u nas były takie lekcje to czy ja bym chodziła na nie?

Myślę, że tak. Chciałabym uczyć się języka białoruskiego, przypomina mi on język, jakim mówiła moja babcia i rodzina mojego wujka. To taki tajemniczy, zapomniany język z przeszłości.

**Krysia SZCZERBA,**
**kl. VII Białowieża**

**Ад рэдакцыі:** З увагі на змест ліста друкуем яго на польскай мове. Прапануем нашым чытачам і карэспандэнтам адказаць Крысі на пытанні, якія яна ставіць. Думаю, што атрымаецца цікавая дыскусія. А аўтары самых цікавых допісаў возьмуць удзел у чарговых Сустрэчах „Зоркі”.

# Якія прафесіі выконвалі беларусы ў II Рэчы Паспалітай

Сярод двухмільённай масы беларусаў даваеннай Польшчы звыш 90% складалі сяляне. Беларускіх рабочых было няшмат і ў пераважнай большасці наймаліся яны на працу ў якасці парабкаў у багатых памешчыкаў, у млынах, лесапільнях ці рыбалоўстве. На фабрыках працавала няшмат беларусаў, між іншым таму, што апрача Беласточчыны, у Заходняй Беларусі не было амаль ніякай прамысловасці. У дзяржаўных прадпрыемствах беларусаў не прымалі на працу. Палякі баяліся дыверсійнай дзейнасці з іх боку, а апрача таго стваралі магчымасць зарабляць сваім.

Беларускія рамеснікі жылі найчасцей у вёсках. У кожным пасёлку былі людзі, якія апрача працы на сваёй гаспадарцы, выконвалі ўсялякія паслугі — сталярскія, кавальскія, цяслярскія, кравецкія. Дарэчы, гаспадарка ва ўсходніх ваяводствах даваеннай Польшчы мела ўсе прыкметы натуральнай, бо амаль усё, што людзям было патрэбнае да жыцця, рабілі сабе самі. Вопратку, абутак, прылады працы на гаспадарцы і для штодзённага карыстання рабілі вясковыя рамеснікі. У горадзе людзі куплялі няшмат — запалкі, соль, нафту да лямпаў.

Беларуская інтэлігенцыя ў II Рэчы Паспалітай была нешматлікая. У выніку паланізацыйнай палітыкі нават тыя, што ў царскай Расіі працавалі ўраднікамі, у Польшчы патрацілі працу. Улады не дазвалялі на існаванне беларускага школьніцтва, таму амаль знікла беларускае настаўніцкае асяроддзе. Сяляне, якім ледзь хапала грошай, каб заплаціць падаткі, не мелі магчымасці пасылаць сваіх дзяцей у сярэднія школы. З прычыны недахопу нацыянальнай інтэлігенцыі беларусы былі народам найгорш сарганізаваным, за душу якога змагаліся з аднаго боку палянізатары, а з другога — камуністы.

Памешчыкі беларускай нацыянальнасці гэта лічаныя адзінкі. Большасць з іх вельмі актыўна ўдзельнічала ў нацыянальным жыцці. Раман Скірмунт, Вячаслаў Багдановіч, Аляксандр Уласаў жылі праблемамі свайго люду, змагаліся за яго лепшы лёс. Але былі гэта толькі адзінкі.

Прыгоды паноў Заблоцкага і Кубліцкага

# Цар Максімільян

— Дажыліся: ані хлеба, ані табакі, прападаем, як сабакі, — сумна кажа пан Кубліцкі.

— Вось што, дзеўка: ідзі ў Смургоні на рынак, купі хлеба, солі ды тытуню, — загадвае Дрыпе пан Заблоцкі. — А грошы даставай дзе хочаш. Мы дазваляем. Ведай нашую ласку.

Дзеўка думала, думала — і прыдумала: трэба карову прадаць. Усё адно даіцца перастала. Выпраўляецца Дрыпа ў Смургоні, уперад сябе карову гоніць.

Там на рынку людзей як кіем набіта, няма дзе голкаю торкнуць. Адразу купілі ў Дрыпы карову за тры талеры, і яна ідзе па пляцы шчаслівая, зубы сушыць ад радасці, што грошы мае. А яе гандляры хапаюць за рукавы, за світу: купі хусту! купі пернікі! купі чорта лысага! З нейкага будана выставіўся панок у белым хвартуху ды гукае:

— Шаноўныя мамзелі, хто хоча пастрыгчыся па апошняй французскай модзе, валі сюды.

Дзеўка Дрыпа стала насупраць будана, губу адвесіўшы. А панок, прыкмеціўшы яе, гукае:

— Чаго зяпу раскрыла, шаноўная мамзеля?

— Выбачайце, спадарыку, — нясмела кажа дзеўка Дрыпа, — ці то не вашэць летась стрыг авечкі ў тутэйшага пана Кіндзюшкі?

— Не, гэта не я! — спрытна адказвае панок. — Я з Парыжу, французскі цырульнік, гэта па-вашаму пастрыгач. Магу й цябе пастрыгчы, шаноўная мамзеля, — станеш вочынна красівая, вужасна прыўкрасная!

Ну хто ж не захоча стаць прыгожай? Вось і дзеўцы Дрыпе загарэлася. Яна аддае пастрыгачу адзін талер, а той робіць з яе парыжскую мамзелю. Выходзіць Дрыпа з будана ні павай, ні варонай, а рыхтык абскубаная кіндзюшкава авечка. Усіх вераб'ёў на рынку ўспудзіла. Але ідзе сабе вясёлая, бо ў прыполе звіняць яшчэ два талеры. Тут пераймае Дрыпу цыганка:

— Пазалаці ручку, модная паненка, усю праўду распавяду, за каго замуж пойдзеш, скажу.

Дзеўцы цікава. Яна аддае цыганцы другі талер, а тая бярэ дзеўку за руку і пачынае варажыць:

— Чакае цябе, красуня, далёкая дарога й вялікія турботы. Аде дарма, бо пойдзеш замуж за цара Максімільяна. —А што за той цар? — пытаецца ўзрадаваная дзеўка Дрыпа.

— А пярун яго ведае, — адказвае цыганка ды знікае з Дрыпіным талерам.

Дрыпа ідзе далей па рынку і раптам чуе пранізлівы голас: „Просім да нас у цiатр! Толькі адно прадстаўленне! Смургонскія гутнікі паказваюць пра цара Максімільяна і ягонага сына Адольку!"

Пачуўшы імя жаніха, дзеўка Дрыпа кідаецца на голас — і бачыць у завулку хату, у дзвярах стаіць чорны барадач, строга гэтак пазірае:

— Куды, дзеўка?

— Хачу паглядзець на цара Максімільяна.

— Плаці грошы.

Дзеўка аддае астатні талер і ўваходзіць у хату, дзе людзей набілася, што селядцоў. Прадстаўленне ўжо ва ўсю ідзе. Ужо цар Максімільян у бліскучай кароне, з доўгай рыжай барадой гукае да фіцьмаршала: „З'явіся перада мной, як ліст перад травой!"

Прыбягае фіцьмаршал, усе грудзі ў медалях, штаны з кутасамі, шпоры звіняць.

— Што пажадае ваша анціпарацкая вялікасць?

— Прывядзі да мяне майго непакорнага сына Адольку.

Вядуць Адольку. Ён падабаецца дзеўцы Дрыпе нават больш, чым цар, — маладзенькі, бялявы, у ружовай кашульцы, у запраўленых у боты портках. „Чаму б не за гэтага замуж?" — падумвае дзеўка. Але Адольку ўжо адсякаюць галаву за тое, што не слухаўся цара. А што гэта за жаніх, які без галавы?

*(працяг будзе)*

Пятро Васючэнка

З маіх падарожжаў

# Сабор Святога Марка ў Венецыі



Сабор Святога Марка — найбольш каштоўны і найпрыгажэйшы помнік Венецыі. Скрыжаваліся тут познавізантыйская, раманская і гатычная архітэктуры. У сярэдзіне сабор — быццам музей, у якім поўна прадметаў візантыйскага мастацтва — трафеяў з Усходу, або выкананых таленавітымі венецыянскімі майстрамі.

Сабор пабудаваны на плане грэцкага крыжа, ды і пяць купалаў прыдаюць яму арыентальны выгляд. Архітэктура храма і яго ўнутраны від пераконваюць, што з'яўляецца ён адзіным у лацінскай Еўропе настолькі дасканалым астраўком візантыйскай архітэктуры.

Архітэктар сабора невядомы, але маркуюць, што ён быў грэкам. Будавалі яго венецыянскія і ламбардскія майстры. Сабор быў пасвячаны ў канцы XI стагоддзя, але аж да XVI стагоддзя яго ўпрыгожвалі ў сярэдзіне.

Былі тут цудоўныя мазаікі, мармуры, калоны, скульптуры, мастацкія працы ювеліраў, а таксама багатыя трафеі, якія прывезлі венецыяне пасля пераможных бітваў з Канстанцінопаля (да іх належалі таксама славутыя грэцкія коні, якія ў палове XIII стагоддзя ўпрыгожвалі фасад Сабора, а таксама візантыйскія, старахрысціянскія і антычныя скульптуры, умураваныя ў сцены сабора).

Адным з важнейшых элементаў прыгажосці сабора з'яўляюцца калоны і невялікія калонкі, якіх тут аж пяцьсот штук. Выкананы яны з розных сартоў каменя: граніту, белага і чорнага грэцкага мармуру, зялёнага мармуру, алебастру і іншых.

Найбольшую славу прынеслі сабору Святога Марка мазаікі на залатым фоне, якія пакрылі фасад, купалы і сабор у сярэдзіне.

У цэлым сабор, нягледзячы на розніцу ў стылях, захоўвае гармонію і адлюстроўвае венецыянскі густ, які на першае месца ставіць багацце і колеры.

У перыяд Рэспублікі сабор быў афіцыяльным дзяржаўным касцёлам. Тут адбываліся ўрачыстае абвяшчэнне і цырымонія прысваення звання новаму дожу. У саборы капітаны караблёў атрымлівалі благаславенства перад тым, як мелі выплыць на вайну.

Тут збіраўся народ на малітвы ў час заразы і ў гады вайны.

Ад сабора і пляц называецца плянцам Святога Марка. Але, кажу вам, марожанае на гэтым пляцы смакуе таксама, як і дома.

Адрыяна Семянюк

*Фота А. Ч.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 39

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 35:** Пыл, крама, прыгажуня, асака, рута, камар, ар. Краса, рыс, нага, мак, пажар, лянота, явар.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Brama / Widełki | | | | | | Prze-kleństwo | | Ogromna niezgrabna rzecz | |
| | Łan / Poczta | | Urwis | Ilustrator | | List | Młodzieniec | Tasiemka | | Rozmach / Rzeka | | | | |
| | | | | Kawa | | | | | | | | | | |
| | Pogańska bogini wiosny | | Klin | | | | | | | Ara | | Oda | Wrzątek | |
| | Beksa | | | | | | | Zamowa | | | | | | |
| | Aster | | Gałązka | | | | | | Radar / Sahara | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | |



Талон „Зоркі" № 39 27.09.1998

# Эпітафіі Віктара Шведа

*Я не паэта, о крый мяне Божа...*
*Янка Купала*

Думаю, што спор наконт таго, хто ёсць паэтам, існуе ад таго часу, калі паявілася паэзія.

Ці паэт гэта той, хто, заглыбляючыся ў свой (толькі яму зразумелы) унутраны свет, імкнецца рабіць гэта так дэталёва, што не патрапіць зразумець яго чытач, а часам і ён сам перастае разумець сам сябе?..

Ці паэт гэта той, чые думкі і настрой з лёгкасцю перадаюцца чытачу, і становяцца адразу як бы яго ўласнасцю, бо і ён так думаў ды і настрої ў яго бываюць падобныя?..

Немудрагелістыя, шчырыя вершы Віктара Шведа, якія ён піша на працягу больш пяцідзесяці гадоў, сталі неадлучным элементам беларускага жыцця Беласточчыны. Людзі спяваюць песні на словы Віктара Шведа, не заўсёды ведаючы, што ён іх напісаў. Проста, яны — іхнія. Яны спяваюць свае песні.

Калі Пятро Германюк, беларус з горада Аўгустова, параіў сваёй швагерцы даць беларускі надпіс на помніку яго дваюраднаму брату, пахаванаму на могілках у Гайнаўцы, не ведаў, што тое, што ён прапанаваў, гэта былі словы з верша Віктара Шведа. „Ніколі і нідзе не адракуся, што беларусам жыў і буду жыць!" — гэтая простая, канкрэтная дэкларацыя, ведаў ён, была б яго брату па душы. Зрэшты, так, як і многім іншым беларусам Беласточчыны.

Вершы Віктара Шведа чытаюцца лёгка і запамінаюцца таксама. Яны зразумелыя ўсім. Яшчэ ў 1945 годзе, калі Віктар вучыўся ў Бельскім беларускім ліцэі, ён напісаў эпітафію настаўніку Пятру Кароткаму. Гэты настаўнік вучыў беларускай мове і, хаця прыехаў з Беларусі, то пахавалі яго ў Бельску.

У пачатку 1946 года, расказвае мне Віктар Швед, загінуў вучань I класа нашага ліцэя Валодзя Супрунюк з Рыбалаў. Яго забілі бандыты (цяпер іх называюць патрыётамі) толькі за тое, што ён ехаў у Беласток разам са сваім дзядзькам — савецкім палкоўнікам. Я тады сам па-беларуску напісаў верш, прысвечаны сябру, і чытаў яго над магілай у часе пахавання Валодзі.

У сваіх вершах лепш, чым звычайнымі словамі, Віктар Швед умее выліць свой жаль і смутак з прычыны скону сваіх блізкіх. Вядома, чытаў над магіламі сваіх бацькоў прысвечаныя ім вершы. Вершам сказаць лягчэй і можна зрабіць больш важка, здавалася заўсёды паэту.

Калісьці ў вёсцы Мора забілі майго сябра, далёкага сваяка, кажа Віктар Швед. Добры сябра быў, аднагодак. Пайшоў ён на забаву. Стаяў на вуліцы, піў піва і спакойна размаўляў з сябрамі. Ні з кім не сварыўся, не лаяўся і не біўся. Нехта знянацку кінуў каменем у групу стаячых мужчын. Няшчасны камень трапіў у яго. Сябра загінуў на месцы. Я тады страшна перажыў гэту незразумелую смерць, але што я мог зрабіць? Таксама спецыяльна яму напісаў верш.

Я мучу Віктара Шведа, а ён выцягвае са сваёй памяці тое, што магло б мяне зацікавіць. Радасна яму, што яго вершы пішуць на помніках. Усё ж яго праца не змарнавалася.

Яшчэ ў шасцідзесятыя гады, расказвае паэт, селянін з Крывятыч прыйшоў да майго бацькі ў Мора. У яго здарылася страшэнная трагедыя: загінуў даросль сын. Ставячы яму помнік у Орлі, селянін выпрашыў парасціць у майго бацькі, каб я напісаў эпітафію на помнік яго сыну. Я, вядома, верш напісаў, але быў ён даволі доўгі, звароток пяць-шэсць. Я баяўся, што яны з ім зробяць, якія словы выберуць. А яны, уяві сабе, выгравіравалі на медный бляcе ўвесь мой верш.

* * *

Янка Купала пісаў: „Я не паэта, о крый мяне Божа..."

**Ада Чачуга**

# І ў Малінніках было свята

Мінула лета, а разам з ім адышоў час арганізавання фэстаў у нашых вёсках. На адным з іх пабываў і я, 16 жніўня ў Малінніках. Арганізатарамі мерапрыемства былі Гмінны асяродак культуры і Гміннае праўленне Добраахвотных пажарных каманд (ОСП) у Орлі.

Мерапрыемства ўдалося, што пацвердзілі мае суразмоўцы. — Дагэтуль у Малінніках беларускія фэсты не спалучаліся з іншымі мерапрыемствамі. Сёлета, 16 жніўня, пасля выступленняў мастацкіх калектываў адбыліся спаборніцтвы пажарных каманд. І гэта заслуга арганізатараў, — кажа жыхар Маліннік.

Мерапрыемства праходзіла побач мясцовага пажарнага дэпо на навапабудаванай сцэне. Выступалі калектывы з Дабрывады, Дубяжына, Красняга Сяла, „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў і „Капры" з Беластока.

А вось што пра пажарнае спаборніцтва сказаў старшыня Гміннага праўлення ОСП у Орлі Мікалай Шкода, жыхар Рыгораўцаў.

Спаборніцтвы пажарных каманд былі невыпадковымі ў гэтую жнівеньскую нядзелю. Прымеркаваны яны былі да передачы нашаму праўленню двух пажарных машын маркі „Камаз".

У спаборніцтвах удзельнічалі каманды ОСП з Рыгораўцаў, Орлі, Рудутаў, Маліннікаў, а таксама маладзёжная група пажарнікаў з Орлі.

Перамаглі пажарнікі з Рыгораўцаў. Другое месца заваявала каманда з Орлі, а трэцяе — з Рудут.

Не пашанцавала толькі гаспадарам. У час уключэння мотапомпы здарылася аварыя, прычынай якой была памылка аднаго з членаў маліннiцкага экіпажа. У выніку — ім прыпала апошняе месца.

Хачу адзначыць, што заслугай войта было тое, што знайшоў ён спонсараў, якія купілі ўзнагароды пераможцам спаборніцтваў. Кожны пажарнік, які займеў першае месца, атрымаў насценны гадзіннік, за другое — калькулятар, а за трэцяе — ліхтарык. Членам маладзёжнай каманды з Орлі, якая выступала па-за конкурсам, былі ўручаны секундамеры. У мерапрыемстве ўдзельнічаў пасол Сейма РП Сяргей Плева.

Аўтамабіль „Камаз" перададзены Рыгораўскай камандзе пасвяціў святар Падбельскага прыхода. Пасля заканчэння фэсту арганізатары запрасілі самадзейнікаў на пікнік пры вогнішчы. Сардэчную сяброўскую атмасферу падтрымоўваў Сцяпан Копа, прыігрываючы на гармоніку.

Спаборніцтва адбывалася пад тэхнічным наглядам Раённай камендатуры ПСП, а канкрэтна намесніка Раённага каменданта Янкі Шкоды.

Малінніцкае мерапрыемства прайшло паспяхова. Раённы камендант ПСП у Бельску-Падляшскім спадар Барташук так ацаніў арганізатараў фэсту:

— Тое, што Гміна ў Орлі атрымала два аўтамабілі „Камаз" (на ваяводства было прызначана ўсяго чатыры машыны) — заслуга мясцовага войта. Ён знайшоў спосаб, каб атрымаць належную датацыю з Варшавы. Значыцца, чалавек патрапіць думаць і дзейнічаць.

**Уладзімір Сідарук**

# Адпачывалі ў Нараўцы

Летам у Нараўку ахвотна прыязджаюць курортнікі з розных куткоў нашай краіны. Найбольш аднак са Шлёнска. Затрымліваюцца яны ў мясцовым Асяродку спорту і адпачынку, які мае выгодныя домікі на беразе ціхаплыннай пушчанскай ракі. Ёсць тут таксама спортпляцоўка і пазычальня байдарак.

Падчас сёлетніх канікул у Нараўцы адпачывалі таксама замежныя турысты, між іншым, бельгійцы з горада Локерэн. Яны вельмі захапляліся прыгажосцю нараўчанскага наваколля і паабяцалі прыехаць сюды ў 1999 годзе.

**(гаї)**

# Майстрыха каўбаснай справы

**Калісьці свіней калолі толькі пад Каляды і Вялікдзень, а цяпер тады, калі толькі скончацца мясныя запасы ў маразілцы, нават у сярэдзіне лета, — кажа Вера НАЗАРЭВІЧ, 69-гадовая жыхарка Орлі.**



— Закончыла я толькі тры класы школы ў Крывой і адзін клас пры саветах. А ў ваенны час, у 1943 годзе забралі мяне на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію. Працавала я ў маёнтку, 30 кіламетраў ад Кёнігсберга. Баўэр быў на фронце, а на гаспадарцы займалася яго жонка з двума дзяцьмі і нямецкі парабак-інвалід. У суседніх маёнтках працавалі французы і літоўцы. Калі савецкія войскі наступалі на Кёнігсберг, то ў нас зямля гула. Дадому вярнулася я ў 1945 годзе.

У 1951 годзе выйшла я замуж у Орлю, прыйшло на свет двое дзяцей, дачка, а потым сын. У шасцідзесятых гадах шэсць сезонаў працавала я на цагельні ў Антонаве каля Орлі. Работа пры цэглах, асабліва жанчыне, была вельмі цяжкая і тады я стала думаць пра нейкую прафесію. Якраз у Орлі арганізавалі вечаровыя курсы ў аб'ёме VII класа пачатковай школы. Паступіла я туды і пасля аказалася, што не дарэмна. У 1972 г. пайшла я працаваць у каўбасны цэх мясцовага ГСу, якога загадчыкам быў пакойны Мікалай Стэльмашук. Пасля, у 1975 г. паслалі мяне ў Беласток на курсы, дзе атрымала я званне чаляднiка, а тры гады пазней — майстра. Агулам у старой, а пасля ў новай „масарні" прапрацавала я 16 гадоў — пры кішках, каўбасе і ўбоі. У 1988 г. перайшла я на пенсію.

Вяндліна з магазіна дорага каштуе, а і смакуе горш. У нас заўсёды колюць вепрука вагою пад 150 кг, бо тады мяса найсмачнейшае і найбольш прадуктыўнае. Забой свінні, асвежаванне яе і разбор тушы займае мне каля паўтары гадзіны. За так кароткі час мала які мужчына справіцца. Звычайна раблю каўбасу-пальцоўку (на здымку), ліверную каўбасу і кашанку. Калісьці фарш рыхтавалі таксама як і цяпер, толькі інакш начынялі — праз шкло ад лямпы-газоўкі або вялікі кавальскі ключ. Сёння для гэтага ёсць спецыяльныя мясарубкі. У мяне ёсць таксама прэс для надання рульцы (golonce) формы шынкі.

Калі рыхтую шынку, дык спачатку салю яе, потым вэнджу і тады выпараю. Для вырабу ліверная каўбасы выкарыстоўваю вараныя лёгкія, цэлую галаву і ўсю скуру, прапушчаныя праз мясарубку. У кашанку дадаю грэцкую крупу, рыс, субпрадукты, пашынкаваныя скуру і сала. На шмалец таплю толькі мяккія рэшткі, а сала салю, бо яно надта смачнае са свежым агурком ці памідорам. Сальцісонаў не раблю, бо ніхто ў мяне іх не есць.

Вяндлярня ў мяне самаробная, з бочкі. Час вэнджання вырабаў залежыць ад надвор'я. Калі на двары цёпла і ў бочцы трымаецца адпаведная тэмпература, то каўбаса ўвэндзіцца за дзве гадзіны. Але калі няма тэмпературы і дровы не гараць, то каўбаса толькі дымам пярэйдзе і будзе ўся чорная ад сажы. У маёй практыцы было такое, што каўбасу трэба было мыць і паўторна вэндзіць. Добра падкладаць альховыя бярвенні, найлепш тоўстыя, бо тады ў іх утрымоўваецца многа квасу. Пасля вэнджання каўбасу трэба пакласці на 20 мінут у гарачую (90°С) ваду і можна есці...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 25**

Мабыць, чытачы заўважылі, што аграмадная большасць інфармацый аб усходняй Беласточчыне на старонках „Нашай нівы" датычыла Бельскага павета, а гаворачы больш канкрэтна вёскі Кленікі і яе аколіц. У саракавым нумары тыднёвіка ад 1909 г. паявілася публікацыя, якая была звязана з зусім іншым раёнам Беласточчыны. Аўтар пад псеўданімам Тарас Бульба спісаў звычаі і парадкі, пануючыя ў падбеластоцкім Васількаве. Агульная інтанацыя артыкула вельмі сумная. Істотнае аднак тое, што даведваемся з яго не мала аб характары жыцця жыхароў гэтай мясцовасці ў мінулым:

„Мястэчка Васількаў, Гродзенскай губерні, Беластоцкага павета. У нас нібы і ёсць вольная пажарная дружына, але толькі на паперы. Ужо другі год як ніколі не бывае ніякіх сабранняў і вучэнняў; прэдседацель і начальнік каманды нічога мудрэйшага не выдумалі, як зракліся службы, а на іх месца і да гэтага часу нікога не выбралі. Прылады пажарныя псуюцца — усе бочкі парассыхаліся, ніводнай сікаўкі няма акуратнай. Мястэчка вялікае і на выпадак няшчасця ніякай помачы не будзе. Нядаўна некалькі чалавек, добра выпіўшых зрабілі манеўры; паабліваlі вадой малых дзяцей на вуліцы, гэтым справа і кончылася. Так спіць спакойным сном наша мястэчкова інтэлігенцыя. Усе людзі ходзяць як з перабітымі нагамі, прывыкшы толькі гаварыць: „Тут такі народ, што нічога добрага не можна зрабіць!" А тым часам хто захоча, дык усё зробіць, трэба толькі трохі цвёрдасці і навукі давадзіць да канца тую справу, за каторую ўзяўся".

У сорак першым нумары „Нашай нівы" той жа Тарас Бульба апублікаваў не менш цікавы артыкул аб Васількаве. Незразумела толькі, што ў вышэйпрыведзенай публікацыі залічыў ён Васількаў да Беластоцкага павета, а ў інфармацыі змешчанай у 41 нумары тыднёвіка напісаў, што Васількаў належыць да Сакольскага павета.

„Васількаў, Гродзенская губерня, Сакольскі павет. Прыйшла восень і штодня можна бачыць, як мужыкі вязуць у Беласток на продаж па некалькі вазоў сена; прадаюць яны, як і прошлым годам, бадай што задарма, а потым зімой самі купляюць па 55 капеек пуд. Вядома, што ўсе грошы прапіваюць. Шмат якія з гаспадароў папрадавалі каровы, за каторыя самі яны плацілі вясной па 60 рублёў. Вельмі смутна глядзець на такое жыццё сялянскае, хоць апроч зямлі маюць яны добры заработак на фабрыках. Трэба ведаць, што ў нас жыве 4 тысячы 500 жыцелёў, а ёсць усяго толькі адна царкоўна-прыхадская школа. Здаецца, нідзе няма такога мястэчка, гдзе б навука так нізка стаяла, а як скажаш каму трохі і больш вучонаму, каб пашырыць прасвету, дык ён і слухаць не хоча. Дай Бог, каб нашы мяшчане трохі апаматаліся".

У сорак другім нумары „Нашай нівы" Тарас Бульба змясціў кароткую але вельмі істотную інфармацыю пра пападзеі ў тым жа Васількаве. Вось яе змест:

„Васількаў, Гродзенская губерня, Сакольскі павет. Усе даўно казалі, што ў нас управа кепска кіруе гарадскую гаспадарку, а камандзеры яе цягнуць шмат грошай. Ажно пазаўчора па прыказу губернатара, старасту змясцілі, прыехаў следавацель і арыштаваў саксатара; як выявілася то бадай, увесь даход горада прападаў невядома куды, а ў управе было так мала грошай, што вучыцелю 4 месяцы не плацілі пенсіі. Што можна хацець ад звычайных мяшчан, калі выбраныя „лепшыя" людзі так робяць. Цяпер будуць новыя выбары, але ў нас так заведзена, што хто лепей пачастуе гарэлкай, таго і выберуць. А там зноў да якогась часу будзе ціха".

Ці ж гэта ўсё, шаноўныя чытачы, не цікава?

**Алесь Барскі**

# Асвячэнне капліцы

**12 верасня 1998 года ў скансэне, што каля Белавежы, адбылося асвячэнне новапабудаванай капліцы ў гонар Аляксандра Неўскага.**



Епіскапа бельскага Грыгорыя, гайнаўскае і бельскае духавенства і гасцей прывітаў хлебам і соллю Міхал Байко. Асвячэнне капліцы і малебен Аляксандру Неўскаму (у інакаx Алексію) узначальваў епіскап Грыгорый. На мерапрыемства прыехалі не толькі людзі, якія сустракаюцца тут, але і жыхары Белавежы, Гайнаўшчыны і больш аддаленых мясцовасцей. Пасля багаслужэння арганізатары паказвалі ветракі, будынкі і прылады, якімі карысталіся нашы продкі і расказвалі пра дваццацігадовую гісторыю скансэна.

— Тут, дзе зараз скансэн, была вёска Крапіўнік, з якой немцы ў 1941 годзе вывезлі людзей, а вёску знішчылі, — пачынае расказ Міхал Байко, адзін з дзесяці ўладальнікаў скансэна, які ад самага пачатку з ім звязаны. — Калі я закончыў вучобу ў вышэйшай установе, вельмі хацеў застацца на радзіме, таму і вярнуўся на Гайнаўшчыну і пачаў працаваць настаўнікам. Спачатку сарганізаваў міні-музей у хаце дзеда, што ў Белавежы. Першыя экспанаты дзеда, якія зараз у скансэне вельмі цікавыя, бо рабіў ён усё вельмі дакладна. Тут у Крапіўніку было 0,30 гектара дзедавай зямлі, якую ён перапісаў на мяне і ад гэтага пачалося. Яшчэ будучы студэнтам пазнаёміўся я з Яўгенам Чыквіным і варшаўскімі сябрамі, якія прыязджалі на сядзібу майго дзеда ў Белавежу на водпускі і мы вырашылі перавезці ў Крапіўнік ветрак. Супольна з Анатолем Адзіевічам, Яўгенам Чыквіным, Міколам Алексеюком, Юркам Манаховічам пачалі яго перавозіць пасля свята Ганны 1978 года. Тады таксама пачаў я хадзіць на спецыяльныя сельскагаспадарчыя курсы, каб магчы дакупіць зямлі. У 1982 годзе купіў я яшчэ 3,2 гектара, а ў 1983 годзе мама аддала мне яшчэ 0,70 гектара і ўсю гэтую зямлю натарыяльна я перадаў у супольную ўласнасць 10 асоб пад пабудову скансэна праваслаўна-беларускай культуры. У 1984 годзе перавезлі мы хату з Белай, што каля Бельска, у 1985 годзе ветрак з Орлі, у 1986 годзе майстэрню з Відава і клуню з Кашалёў, у 1987 годзе пабудавалі лазню, у 1988 годзе перавезлі хату з Кленік і ўжо нядаўна, бо ў 1996 годзе перавезлі ветрак з Чыжык. Асобай, якая найбольш працавала і хадзіла каля гэтага быў Анатоль Адзіевіч, сёння прафесар і дэкан фізічнага аддзялення Варшаўскага універсітэта. Іншыя асобы, з якімі мы супольна тут працавалі, гэта Юрка Манаховіч, Мікола Алексяюк, Юрка Хвашчэўскі, Вячаслаў Вашкевіч і Юрка Місяюк. У 1987 годзе гэты скансэн (тэрыторыя з будынкамі) быў зарэгістраваны ў рэстаўратара помнікаў у Беластоку як комплекс аб'ектаў беларускага будаўніцтва. У гэты скансэн прыязджалі знаёмыя на адпачынак, студэнты, удзельнікі розных рэйдаў, як і прыватныя асобы, арганізаваліся розныя сімпозіумы. Калі некаторыя з нашай групы пачалі адчуваць сябе ўкраінцамі, беларусы сталі менш актыўнымі. Ад самага пачатку марылі мы, каб перавезці капліцу, але не было такой магчымасці, бо ўсе патрэбныя ў парафіях. Спадабалася нам капліца ў Новаберазове, пабудаваная з нагоды 900-годдзя хрышчэння Русі. У 1996 годзе разам з айцом Сяргеем Корхам з Белавежы і прафесарам Анатолем Адзіевічам звярнуліся мы да тадышняга мітрапаліта Васілія з просьбай благаславіць на пабудову такой жа самай капліцы ў нашым скансэне, што і атрымалі. 12 верасня 1996 года айцец Лявонцій Тафілюк з Бельска прывёз мошчы Віфлеемскіх мучанікаў і адбылася закладка краевугольнага каменя. Галоўнымі будаўнікамі, якія афармілі планы і зрабілі зруб былі Анатоль Адзіевіч і Ян Хвашчэўскі, але пазней працавала ўжо больш асоб. На свята Аляксандра Неўскага (Алексія), у 1997 годзе быў устаноўлены крыж, а ў гэтым годзе таксама ў дзень перанясення мошчаў Аляксандра Неўскага капліцу асвяцілі.

Калі пачыналі ў 1978 годзе, былі яшчэ халасцякамі і думалі, што недзе праз 5 гадоў закончым пабудову, а цяпер ужо мінула 20 гадоў і ўсе мы жанатыя. Аднак працы цягнуцца, бо фінансуем іх з прыватных сродкаў, а працуем у час водпускаў. Сардэчна запрашаем усіх ахвотных на адпачынак і заахвочваем да дапамогі. Думаю, што будуць ужо пастаянныя выстаўкі і асоба за іх адказная.

Доктар Багдан Мартынюк гаварыў яшчэ пра помнікі царкоўнага мастацтва ў Польшчы і іх ахову, а ўсё мерапрыемства закончылася супольным вогнішчам.

**Аляксей Мароз**

# Што далей?

Я паўвеку не чуў гэтай мовы,
Дый раней не ведаў яе.
У нашых вёсках былі іншы словы,
У кожнай вёсцы —
„нарэччы" свае.

У кастрычніку, у трыццаць
дзевятым
Нам сказалі „Вось вы —
Беларусь!"
Тады й мне той мовы пачатак,
Вось яе два гады я вучусь.

Яна новаю мне паказалася,
Як нямецкі ці „русский язык".
Пасля зноў мне не прыдавалася,
На паўвеку ад яе я адвык.

Ну, франтоў яшчэ з два
праляцела,
Малаведзь, праляцела жыццё.
Па Еўропе паездзіўшы цэлай,
Мовы гэтай не чуў я, і ўсё.

Пабываў і ў зямлі беларускай:
Гродна, Ліда, Менск, Ваўкавыск,
З іншаю, апрача мовы рускай,
Я не стрэнуўся, хоць правалісь.

Дзе ж найсці гэту бедную мову,
Калі ў роднай зямлі не жыве?
Толькі „літаратурныя" словы.
А што ж будзе, як век праплыве?

Ці найдзецца рэцэпт, ці ратунак,
Як народ адракаецца сам,
Выбіраючы модныя струны,
Паддаецца другім галасам?

Тады, думаю, што далей будзе...
Ці канец беларускіх надзей?
Ці народам зробяцца людзі,
Ці насельніцтвам будуць далей?

**„Улас"**



# Суджана жывым астацца

**Міхал КРАСОЎСКІ з вёскі Кнаразы служыў у Арміі Андэрса. Ваяваў у Італіі. За Монтэ-Касіна ўзнагароджаны ордэнам „Krzyż Walecznych".**


Фота з архіва М. КРАСОЎСКАГА

*Міхал Красоўскі ў Англіі.*

Саветы ў 1940 годзе забралі мяне ў Чырвоную Армію, у якой служыў я да пачатку вайны. Два тыдні пасля нападу немцаў на Расею ад нас, тутэйшых беларусаў, якіх лічылі палякамі, аднялі зброю. Я трапіў у рабочы батальён у Горкім і працаваў там дзевяць месяцаў. У пачатку 1942 года саветы перадалі нас польскім уладам і завезлі пад Ташкент, дзе арганізавалася польская армія. З поезда адразу на камісію, прызналі здатным для службы і так стаў я салдатам польскага войска.

Каля Ташкента стаялі мы амаль цэлае лета. З Расеі вывезлі нас у Іран, здаецца, 18 жніўня. У Іране прабылі некалькі тыдняў. Паставілі палаткі на беразе Каспійскага мора і нічога не рабілі, толькі купаліся.

Потым загрузілі нас на машыны і везлі чатыры дні ў Ірак. Там прабылі год, рэарганізавалі армію. У Іраку прайшоў я шасцітыднёвыя шафёрскія курсы і трапіў у 5 полк проціпаветранай артылерыі. У гэтым палку і пратоўкся да канца вайны.

Першы наш бой гэта Монтэ-Касіна. Бралі мы яго тыдзень. Перад намі горы, прычым не такія як у нас, пясковыя, але скала. Не схаваешся, не закапаешся. Немец то сабе падрыхтаваў лінію такіх бункераў, што іх і бомбы не бралі, а нам трэба было на жыватах лезці. Пакуль мы ўзялі гэтае Касіна, то немец амаль усю нашу пяхоту выбіў. Пасля бою адцягнулі нас на пару нядзель ад фронту. Трэба было зноў рэарганізаваць армію, бо папаўнення няма. У сваёй краіне, калі аднаго забілі, то на яго месца бяруць другога з мабілізацыі, а ў чужой няма кім папоўніць. Дык перакідалі войска з аднае часці ў другую, найбольш у пяхоту.

Больш такіх баёў ужо не было. Скіравалі нас пад Анкону, недалёка Адрыятычнага мора. Як яе здабылі, то ішлі, ішлі, аж да Балоньі зайшлі. Потым немцы ўцякалі аж за рэчку По, але палякі далей Балоньі ўжо не ішлі.

Мне, відаць, было суджана жывым астацца. Ну, я ў пяхоце не служыў, але і ездзячы можна было ў любую хвіліну сваё атрымаць.

Пад Анконай далі мне задачу вазіць раненых. Ездзіў я па кукурузным полі, слухаў, дзе енчаць салдаты і збіраў іх. Аднойчы кажуць мне: „Едзь, па левым баку, якіх сто метраў ад шашы будзе касцёл. Там ляжыць ранены, забяры яго". Еду, ёсць касцёльчык, павярнуў я з шашы на вузенькую пясчаную дарогу. Касцёл адчынены, там цывіль таўчэцца. Кажа, што ўжо раненага забралі. Ну, мне няма чаго рабіць, выцягваю цыгарэты, частую цывіля, стаім у прытворку, курым. Раптам чую гул матораў. Штось мяне ткнула, выглядаю, а там дзве супрацьтанкавыя гарматы цягнуць. Ого, думаю, раз так, то тут дзесьці і нямецкія танкі мусяць быць. Ускочыў я ў машыну і ано да шашы паспеў даехаць, як не бабахне артылерыя! Аглядаюся: самаходы гараць, гарматы дагары нагамі, касцёла няма, цывіля няма, адзін я астаўся.

Пасля вайны скіравалі нас у ваколіцы Рыма на палігон. Ну і клялі мы гэта! Жара, вайна скончылася, а нас вучаць страляць. Ды не толькі страляць, але і пазнаваць самалёты ворага, гэта значыць рускія. На гэтым палігоне згінуў яшчэ адзін праваслаўны. Не ведаю, як гэта здарылася. Казалі, што шомпал у ствале застаўся пасля чышчэння. Ніхто таго не заўважыў, калі выстралілі, разарвала ствол.

Пасля нас перакідалі з месца на месца. Там пастаім, то там. Апошні абоз быў паміж Равенай і Рыміні. Там было някепска, але войска войскам, трэба слухаць загады, варту трымаць і ўсё астатняе. Свабоды няма.

20 чэрвеня 1946 года завезлі мяне ў Англію. Нас, шафёраў, перакінулі з Італіі раней, каб мы падрыхтаваліся вазіць войска з порта, калі прыплыве асноўная армія. А тут пішуць газеты, што з польскай арміі ў Італіі бяруць у Канаду. А няхай цябе, каб жа я там быў, адразу паехаў бы. З Італіі бяруць, а з Англіі не. Можна было і ў Англіі застацца, але якая там праца была: у капальні, цагельні або на гаспадарцы. Пісаць жа не пасадзяць, калі і дагаварыцца цяжка.

Зрабіў я ў консульстве ў Лондане ўсе патрэбныя паперы дзеля дэмабілізацыі і вяртання дадому. Завезлі нас у Шатландыю, у Глазга. Там, не так як тут, выплацілі выхадную дапамогу (г.зв. адправу). Толькі не памятаю, ці дзве трацiны там далі, ці толькі адну, астатняе забіраў Берут і ўжо залатоўкамі выплачваў у Польшчы.

Тут мяне не чапалі, што, значыцца, я ў заходнім рэакцыйным войску служыў. Я ў мундзіры доўгі час хадзіў. Прывёз іх два, адзін на сабе, другі ў валізцы і абодва выхадзіў. У Беластоку ў мундзіры быў не раз. Амерыканскія нагавіцы яшчэ і цяпер маю, магу каму падарыць, бо на мяне сталі цесныя.

**Запісаў Мікола ВАЎРАНЮК**


Фота з архіва Міхала КРАСОЎСКАГА

*Артылерысты Андэрса ў Іраку.*

**Апанас Цыхун**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

***(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)***

**Частка XVI**

17 верасня 1939 года мы атрымалі паведамленне аб пераходзе Чырвонай Арміі савецка-польскай граніцы. Нам казалі, што яна ідзе на дапамогу польскай арміі. Толькі пазней даведаліся, што гэта няпраўда. 29 верасня 1939 года Варшава капітулявала, але страляніна яшчэ працягвалася. Асобныя вайсковыя падраздзяленні не складалі зброі, у тым ліку і 29 дывізіён лёгкай артылерыі, якім камандаваў капітан Шныгер. Заціша наступіла толькі праз некалькі дзён. Варшава поўнасцю капітулявала. Немцы яе трымалі ў акружэнні. Толькі самалёты нізка лёталі, кантралявалі з паветра. Пасля пачалі кідаць лістоўкі з прызывамі, каб здавалі зброю і выходзілі з Варшавы на шырокі тракт, які быў з абодвух бакоў абстаўлены нямецкімі танкамі. Капітан Шныгер у Лазенкаўскім парку апошні раз пастроіў усіх, якія засталіся ў жывых, у адну шарэнгу, сказаў развітальную прамову, развітаўся і пацалаваўся з кожным жаўнерам. Затым падышоў да свайго сівага каня, пагладзіў яго, пацалаваў у храпу. Адышоў, адвярнуўся, яшчэ раз акінуў усіх позіркам і скрыўся з вачэй паміж дрэў Лазенкаўскага парку.

Пасля здачы немцам зброі, польскія палонныя жаўнеры, у тым ліку і я, у суправаджэнні нямецкіх танкаў, на працягу дажджлівай ночы былі дастаўлены ў Гуру Кальварыю, у спецыяльны падрыхтаваны абаронцам Варшавы лагер для ваеннапалонных. Хто не мог ісці, тых на дарозе немцы расстрэльвалі. Мне пашанцавала. У мяне былі добрыя артылерыйскія боты, лёгкія, не мулялі. Я стараўся трымацца на нагах, падчас прыпынкаў не сядаў на мокрую зямлю, ішоў у першых шарэнгах. У асобных салдатаў не было абутку, ішлі босыя. Мае боты ў паходзе мяне выручалі, але былі і небяспечныя. Да іх маглі прыглядзецца немцы, сцягнуць з ног. Я баяўся гэтага, горш раптоўнай смерці. Босы далёка не зайшоў бы я, а адсталага забілі б немцы. Небяспечна было з такімі ботамі ад сваіх жаўнераў, асабліва ноччу. Іх сцягвалі з ног, а былі выпадкі, што дзеля іх і забівалі.

Лагер для ваеннапалонных быў добра падрыхтаваны, абнесены калючым дротам вышынёй больш як у два метры. Зроблены для вартавых вышкі, з якіх уся тэрыторыя лагера была вартавому добра бачна. Начамі з вышак наваколле лагера асвятлялася магутнымі пражэктарамі. У лагеры абаронцам Варшавы на працягу тыдня немцы не далі нічога есці. Не далі нават вады. Настаў голад. Спалі мы пад адкрытым небам. Наступілі халодныя ночы, часта з дажджамі, з мокрым снегам, а многія салдаты не мелі шынелей, не было чым прыкрыцца. Да палонных прысталі розныя хваробы, асабліва — дызентэрыя. Не давалі спакою вошы. Апрача ўсяго гэтага ў лагер урываліся п'яныя эсэсаўцы і рабілі паляванні на палонных, асабліва на яўрэяў „юдаў". Пад музыку іх змушалі танцаваць па аднаму або групамі, калектыўна. З ямы, у якую хадзілі апраўляцца палонныя, змушалі іх рукамі пераліваць змесціва ў другую яму. Пасля гэтага іх гналі купаць у лядзяную ваду Віслы. Затым прыганялі да тае ж ямы і расстрэльвалі.

У наш лагер немцы час ад часу да палонных пускалі параненых коней, якіх вылечыць не было магчымасці. Галодныя палонныя накідаліся на каня, валілі яго на зямлю, забівалі і кожны стараўся сабе адрэзаць кусочак, хто чым мог, так, што праз кароткі час на зямлі заставаліся ад каня толькі косці, якія пасля палонныя ачышчалі ад рэштак мяса.

***(працяг будзе)***

# Панажоўшчына

Праўду піша Апанас Цыхун у сваіх „Пройдзеных шляхах-пуцявінах" („Ніва" н-р 36) наконт нашых святаў, забаў і бек, дзе ў ход ішлі нажы і другія небяспечныя прылады. Панажоўшчына, лічыць, панавала не толькі ў нашых ваколіцах, але і ў палякаў. Дзядзька Яшка ад нас гаварыў мне, што за Бельскам-Падляшскім, дзе ён некалькі гадоў перад вайною служыў пастушком у шляхты, кожная забава канчалася трагічна: або кагось заб'юць, або пакалечаць. Таксама і ў Дубічах-Царкоўных, Чахах-Арлянскіх, Тафілаўцах былі задзіры і хуліганы, якія за кілішак гарэлкі, бывала, налупяць чалавека і паб'юць камянямі вокны. Аднойчы бацюшка Мірон расправіўся з такімі, калі некалькі малайцоў з Тафілаўцаў праспявалі каля царквы салёную песеньку, а на заўвагу айца яшчэ галасней загарланілі. Дык той пачаў іх „хрысціць" дубінкаю аж пыл курэў, а пасля „ложкавага лячэння" адраблялі штраф для бацюшкі.

Усюды біліся і рэзаліся і, лічу, усяму была вінавата гарэлка, нізкая культура і цяжкае жыццё. І пасля вайны рэзаліся, аднак улада не гуляла з хуліганамі ў жмуркі. А цяпер быццам культура, але як людзі брыдка лаюцца і гатакса няма спакою, бо пайшла „мода" на свядомыя забойствы і пакражы!

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Наша кнігаранька

У рэдакцыі можна набыць наступныя новыя выданні:

1. *Беларуская мова: сцісла і даступна. Дапаможнік для старшакласнікаў і абітурыентаў.* Мінск, 1997. Цана 7 зл.
2. *Браслаўшчына азёрная мая. Паэзія прыроды.* Мінск, 1998. Цана 10 зл.
3. *Угасцях у казкі.* Мінск, 1998. (Рускія, украінскія, казахскія, малдаўскія, чэшскія, дацкія, германскія і в'етнамскія казкі). Цана 7 зл.
4. А. Вішнеўскі, І. Саракавік, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі.* Мінск, 1997. Цана 7 зл.
5. К. Кабашнікаў, *Малыя жанры беларускага фальклору ў славянскім кантэксце.* Мінск, 1998. Цана 7 зл.
6. В. Ляшчынская, *Методыка выкладання беларускай мовы. Задачы і практыкаванні.* Мінск, 1998. Цана 7 зл.
7. З. Варановіч, *Тэматычны даведнік-дапаможнік для настаўнікаў беларускай мовы (V—XI класы) і ВНУ.* Гродна, 1997. Цана 7 зл.
8. Л. Чухрова, *Работа над словам.* Мінск, 1998. (Матэрыялы для працы настаўніка пачатковых класаў для лексічнай работы на ўроках беларускай мовы і для пазакласнай работы). Цана 7 зл.
9. *Руска-беларускі слоўнік для вайскоўцаў.* Мінск, 1996. Цана 10 зл.
10. Уладзімір Саўчук, *Што ў сэрцы.* Беласток, 1998. Выданне Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва". Вершы. Цана 5 зл.
11. Міхась Шаховіч, *Пад сузор'ямі.* Выданне Бібліятэчкі Літаб'яднання „Белавежа". Беласток, 1998. Вершы і паэмы. Цана 4 зл.
12. Алена Анішэўская, *Смак жыцця.* Беласток, 1998. Выданне Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва". Вершы і апавяданні. Цана 8 зл.

**(лук)**

# А дыскусія патрэбная!

**Адгалоскі**

Мінула некалькі тыдняў з таго часу, як „Ніва” друкавала допіс Яўгена Бялькевіча „Абухам — сур’ёзна і крыху менш” („Ніва” № 28 ад 12 ліпеня 1998 г.). У сваёй публікацыі аўтар заклікае да шырокай дыскусіі на тэму „Нівы”, якая быць павінна, а таксама аналізуе, хто як піша. — „І няхай нават двух-трох у яе ўключыцца, а ўжо паўстане сякі-такі вобраз патрабаванняў народа”, — лічыць Бялькевіч.

На жаль, мы, чытачы і карэспандэнты, абыякава паставіліся да закліку. Праўда, былі допісы, якія „слязілі” за знікненнем той ці іншай рубрыкі, але ці гэта можна назваць дыскусіяй?

Штуршком для напісання гэтай адгалоскі была мая сустрэча ў Малінніках з Уладзімірам Данілюком, верным прыяцелем „Нівы” і былым пісьманосцам.

— „Ніву” мала зараз чытаюць. Як я быў пісьманосцам, дык заўсёды намагаўся некалькі экземпляраў у школе вучням упіхнуць або сялянам пры выплаце за малако. На маю думку, „Ніва” сталася перастарэлай. Замнога ў ёй палітыкі. Мне здаецца, што журналісты непатрэбна ў справы Беларусі ўмешваюцца. Гэта ж справа беларускага народа і няхай ён сам рашае свае праблемы. „Ніву” добра было б перамяніць. Напрыклад, выдаваць каляровай. Пэўна знайшліся б новыя сімпатыкі...

За такой переменай і я падпісваюся.

За выдатных аўтараў Яўген Бялькевіч лічыць Вандала Арлянскага і Адама Маньяка. Для іх аддае першыя старонкі. Ну, што ж, засталося павіншаваць выдатнікаў. Згодны я з аўтарам, што многа пішу пра чыгунку. Абяцаю ў будучыні пашукаць іншых, больш цікавых тэмаў для сваіх публікацый. Тэмаў жа ў нас — мора. Трэба толькі хацець пісаць і выбіраць з наваколля самыя цікавыя рэчы. Аднак, я не згодны з Бялькевічам, які ўказвае, хто і на якіх старонках мае друкавацца. Паводле мяне, гэта справа галоўнага рэдактара, які адказвае за тыднёвік перад чытачамі і Праграмнай радай. Можна было б паслухаць у той справе народу, як піша Яўген Бялькевіч. Але той маўчыць, бы вады ў рот набраўшы. А мо, аднак, мой допіс зварухне некаторых і сядуць яны за стол ды напішуць у рэдакцыю, што думаюць пра сваю „Ніву”. Была б гэта падтрымка ў сваю чаргу Яўгену Бялькевічу і мне таксама. Ды і самі журналісты кожнаму лісту будуць рады. Гэтага я больш як пэўны!

**Уладзімір Сідарук**

# Цяжкі палеміст

**Адгалоскі**

З Мікалаем Панфілюком весці палеміку вельмі цяжка. Калі хтось, у тым выпадку я, не згаджаецца з яго выказанымі публічна поглядамі, робіцца проста не толькі ворагам слаўнага ніўскага карэспандэнта, але і яшчэ „паскудзіць сваё славянскае гняздо” („Ніва”, № 37).

Можна махнуць рукою на балбатню гэтак званай публіцыстыкі Мікалая Панфілюка і проста не чытаць яе, але з другога боку, нельга абысці маўчаннем звычайнага прапагандавання шавінізму і пісання няпраўды. Варта для прыкладу ўсвядоміць, што не немцы выгналі беларусаў з іх сядзіб у беженства, толькі цар сваім загадам; крыжаносцы — гэта быў манаскі ордэн, які складалі рыцары розных нацыянальнасцей, хаця пра іх нацыянальнасць у сучасным сэнсе гэтага слова цяжка гаварыць. Далей: няпраўда, што я хвалю немцаў да неба і, што гэта залаты народ, а рускія ў мяне нішто. Так толькі думае Панфілюк, што я гэтак пішу.

Польшча, як ні кажы, за некалькі гадоў аб’яднаецца з Еўропай, дзе абавязваюць цывілізаваныя стандарты суадносін між нацыянальнасцямі. Не вельмі магу сабе ўявіць у якасці нашага ворага немцаў, французаў ці англічан. Немцы прытым займаюць сярэдзіну Еўропы. Дзесяткі гадоў прайшлі ад заканчэння II сусветнай вайны і еўрапейскія народы досыць бурліва перайшлі шлях варожых суадносін між сабой. Як піша Ганна Сурмач у цыкле „Еўрапейская пілігрымка” ў „Ніве”, перасякалі яны ў вандроўках па Еўропе межы дзяржаў нават не ведаючы калі і дзе, а першая праверка спаткала іх на нямецка-чэшскай граніцы. Далей яна піша, што „ні кажы, а ўсюды мы (значыць, беларусы — М. К.) адчуваем сваю лучнасць з еўрапейскаю культурай, яна ва ўсім нашым характары, у нашым светаўспрыманні”. Вось! Не ўсе гэта так бачаць.

У большасці дзяржаў Еўропы ўладу трымае сацыял-дэмакратыя, а гэта абазначае, што на першым месцы ў палітыцы ставіцца сацыяльныя ўмовы жыцця чалавека і гуманныя суадносіны між людзьмі. А што пры тым узнікаюць праблемы, дык гэта звычайная справа! Толькі ў бальшавікоў іх не было. Хто быў не з імі, той быў процоў ім.

**Міхась Куптэль**

# Ніхто не павінен злаваць

**Адгалоскі**

Калі я прачытаў адгалоску Мікалая Панфілюка ў „Ніве” н-р 35 ад 30 жніўня 1998 года, мяне аж страсянула. Знайшоў я „Ніву” н-р 27 і аж два разы прачытаў свой артыкул „Ці была ў нас камуна?” Не знайшоў там я слоў, якія маглі б абразіць майго палеміста. За слова „сектант” ніхто не павінен злаваць, бо не толькі камуністычная ўлада ім карысталася, а і цяперашнія дэмакраты не выкінулі яго са слоўніка і ў сродках масавай інфармацыі часта яно зараз паяўляецца.

У маёй бліжэйшай і далейшай сям’і ёсць вернікі многіх веравызнанняў: праваслаўныя, католікі, баптысты, суботнікі, іегавісты і з імі ўсімі я жыву ў згодзе. Часам лепей з католікам згубіць, чым з праваслаўным знайсці і наадварот.

Калі мая жонка ляжала ў шпіталі, ёй дапамагалі Вера Дубяга з Чаромхі і Валянціна Арцюх з Белавежы (пра „сектантку” я ў „Ніве” не пісаў). Я ім яшчэ раз шчыра дзякую за дапамогу. Я нават дастаў касету з запісам песень спадарыні Веры. Чытаю таксама часопісы „Стражніца” і „Знакі часу” і шчыра прызнаюся, што там нічога кепскага я не бачу. Яны навучаюць усяму добраму.

Мікалай Панфілюк дзьмухае туды, адкуль падуе вецер. Калісьці ён дзьмухаў толькі з усходу, цяпер — з захаду. Не аднаго чалавека з ліку нашых карэспандэнтаў і штатных працаўнікоў „Нівы” папракаў ён, а потым перапрашаў іх, калі было ўжо запозна. Не хачу адказу ў „Ніве”, лепш будзе, калі сп. Панфілюк напіша мне пісьмо, а я яму адпішу.

**Мікалай Лук’янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я некуды іду, як бы шукаю выйсця. Пад нагамі — пясчаная пустыня. Ісці цяжка.

Раптам бачу з правага боку сасновы лес. Я накіроўваюся ў напрамку лесу. Падыходжу бліжэй і робіцца нешта незразумелае: перада мной стала высачэзная сцяна пяску, якая адгарадзіла мяне ад зялёнага лесу. Яна, можа, вышыні дзесяці метраў. Яе мне не прайсці.

Я заглядаю збоку, там, дзе сцяна канчаецца, можа там удасца мне прайсці, але дзе там! Усё глуха, няма надзеі. Я паварочваю назад. Перада мною велізарны квадрат пустыні, усюды агароджаны пясчанай сцяной. Мне боязна. Я ж тут зусім адна. Ніхто мне не падасць руку. І раптам заўважаю ў супрацьлеглай сцяне невялікі прасвет. Там сцяна як бы разышлася крыху, і я бачу, што там горад, ездзяць машыны, стаяць дамы, растуць дрэвы.

Я накіроўваюся ізноў праз тую пустыню да выхаду. Баюся, што будзе, Астроне.

**Яніна**

Яніна! Несумненна, у тваім жыцці будуць нейкія цяжкасці, перашкоды. Табе было цяжка ісці праз гэтую пустынную тэрыторыю. Напэўна ногі гразлі ў тым пяску, а ты ў гэтым квадраце адчувала сябе адзінокай і бездапаможнай, тым больш, што нідзе не бачыла выйсця.

Ты бачыла зялёны лес, які мог бы абазначаць для цябе надзею, але высачэзная сцяна пяску адгарадзіла цябе ад яго. Ужо, здавалася, няма ніякага шанцу на выйсце з цяжкой сітуацыі, але тут паявілася адтуліна з відам горада, з жыццём і рухам. Значыцца, паявілася і надзея для цябе, значыцца, знойдзеш выйсце з тваёй цяжкой жыццёвай сітуацыі.

**Астрон**

# У Белавежы многа кветак

Сёлета ў Белавежы поўна кветак, асабліва прыгожыя растуць паабапал вуліц ген. Аляксандра Вашкевіча (найбольш перад Белавежскім асяродкам культуры і кіно) і Трапінка.

Гмінныя ўлады паклапаціліся таксама пра парадак паабапал дарожак для прагулак ля ставаў і на беразе ракі Нараўкі, а таксама пра жывую агароджу ля вуліцы Каляёвай (Чыгуначнай) побач закрытага чыгуначнага вакзала.

**(гай)**

# Выстаўка жывапісу

У Белавежскім асяродку культуры адкрылі выстаўку жывапісу тварцоў-інвалідаў з Дамоў грамадскай дапамогі з Беластока, Белавежы, Харошчы, Гайнаўкі і Ялоўкі. Перад гэтым у белавежскім Экскурсійным доме ПТТК 1-4 верасня г.г. адбыўся пленэр для мастакоў-інвалідаў, які арганізаваў ДГД у Засцянках. На выстаўцы, якая будзе працягвацца да канца верасня, свае карціны экспануюць 23 аўтараў. Усе творы маюць высокую мастацкую вартасць.

**(гай)**

# Запрашэнне на Надбужанскі шлях

27 верасня г.г. Гурток праваднікоў ПТТК у Гайнаўцы арганізоўвае экскурсію Надбужанскім шляхам. Выезд з-пад бюро Праўлення аддзела ПТТК, вул. 3-га Мая 37 а гадзіне $9^{00}$. На шляху адпачынак ля вогнішча.

**(гай)**

# Клуб запрашае

Клуб праваслаўнай інтэлігенцыі запрашае на чарговае спатканне, якое адбудзецца 5 кастрычніка 1998 года а гадз. $18^{00}$ у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ па вул. Варшаўскай 11 у Беластоку. У час сустрэчы будуць абмяркоўвацца справы выбараў у самаўрады. Арганізатары прадугледжваюць таксама сустрэчу з беластоцкімі парламентарыямі.

**(яз)**

***Ніва***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com
INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).
Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Праект пад развагу

*Прысвячаецца*
*бельскаму радному Яну Радкевічу*

Яны нас хочуць у рэзервацыю,
Мы ж ім адчынім — *рэстаўрацыю*.
Бо будзе мець большую рацыю
Той, хто наклеіць асігнацыю,
Каму хутчэй усё будзе *гнацца*,
Спарней каму у карты грацца,
Бо тут такая ў нас *атракцыя*:
Сярод натуры — казіно „Акцыя",
Скуль пусцім голай папуляцыю,
Зграную ў нітку на вакацыях.
Будуць да нас сюды ірвацца
Год пані й паны нагуляцца.
А на рагатках у рэзервацыю
Мыта ў далярах будзе брацца.
Будзеш, Радкевіч-пан, устыдацца,
Бо вашы ўнукі ў нас сапсяцца,
У калісонах прэч памчацца
Ў Еўропу мыці *убікацыі*,
Каб зноў тых грошыкаў набрацца,
Каб мець за што ў нас **разарвацца**!

**Вандал Арлянскі**

## Чырвоны Барэцік, Шэры Воўк і Бабуля

Чырвоны Барэцік жыў з матуляй на ўскраіне лесу ў маленькай хацінцы. Мелі адну кароўку, дзве свінкі, коціка і сабачку, якія пільнаваў гаспадарку і гаспадара. Матуля даіла кароўку, Чырвоны Барэцік вазіў банку са схалоджаным у студні малаком роварам у малачарню, свінкі нарошчвалі на сабе закусь для Чырвонага Барэціка і ягоных сяброў.

Жыла-была яшчэ і Бабуля Чырвонага Барэціка. Не, не родная бабуля, але Бабуля ўсіх у гміне кавалераў. Забяспечвала сасмяглых хлопцаў і мужыкоў у спіртное, здаецца, з дарэвалюцыйных яшчэ часоў, моцна хрышчанае вадою, асабліва за поўнач. Але ўдзячныя аматары Бабуліных вырабаў і вынаходстваў ніколі не наракалі.

Сядзеў Чырвоны Барэцік на прызбе роднае хаты, сузіраў прыроду, сумаваў па мінулай чупрыне, якая калісьці бойка ўздымала ягоны берэт. Чырвоны берэт і цяпер стаяў зусім нядрэнна, антэнкай цэлячы ў хмарнае асеннее неба, але пад сфільцаванай матэрыяй — адна пустэча сёння. Таму Чырвоны Барэцік сцягваў з галавы сваю аздобу толькі калі ішоў спаць, і то не заўсёды.

— Мам, пайду я мусі да Бабкі, — азваўся Чырвоны Барэцік да Матулі.

— Грошай не дам табе, сыну. Пенсію заўтра Гаўрыла прынясе, але ж трэба будзе заплаціць за камбайн...

— Эх, як суцешыцца прагне маё сэрца... І Бабуля хворая можа...

Узяў кошычак Чырвоны Барэцік, паклаў туды цыбуліну з зялёным хвастом, два гуркі, памідор, кавалак хлеба купленага ў аўтакраме, слоік-вэк з тушонкай і рушыў куды ягоны каляровы нос павёў.

— Куды ідзеш, дружа? — папытаўся ў яго Шэры Воўк, што сядзеў пад кустом каліны.

— Да Бабулі.

— А дзе ж тая Бабуля жыве?

— Ты, Шэры, не падабаешся мне штосьці. А чаму ў цябе такія вялікія вочы?

— А якія меў бы ты, калі б сядзеў пад кустом?

— Гы-гы-гы... Ну, жыве наша Бабуля ў хатцы пад ялінкай, цягне адтуль дымком, сам пачуеш. Толькі Бабкі не крыўдзь, расплаціся як след.

І пайшоў Чырвоны Барэцік сваёй дарогай. Песеньку запяе, за мытыльком падскочыць, кветачку нюхне. Ідылія! Адно шчасце жыць у вёсцы!

А Шэры Воўк тым часам забег у хатку, Бабку арыштаваў, чакае Чырвонага Барэціка!

А Чырвоны Барэцік сустрэў непадалёк ад Бабулінай хаціны Ляснічага Панфіла. І Ляснічы да Бабкі ішоў, папытацца, як назіранні старой вядунні за папуляцыяй караедаў, шашалёў і шведаў. Заходзяць у хатку — а тут на ложку пярына гарой!

— Бабуля, гэта ты? — спужаўся Ляснічы, бо Бабулю можна было б узяць у жменю, а тут ложак такі ўздуты, і прыцэліўся стрэльбай у бок неспакойнай пасцелі.

— Бабуля, а што ж у цябе такія вялікія зубы? — жахнуўся Чырвоны Барэцік.

Вылезла Бабка з-пад пярыны.

— Кожны б так рагатаў, калі б такі кавалер трапіўся! Сцягвайце з ложка Шэрага Ваўка. Слабенькая ў яго галоўка, ды і не толькі. Ну, і мужчыны цяпер павяліся... Не тое, што да вайны...

**Кукіша**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. скачок, 8. крывадушнік, 9. жрэц-прадказальнік, 10. расліна сямейства парасонавых з рэзкім пахам, 11. кaштоўнасць, багацце, 13. адсутнасць трывогі, 15. Чарльз, англійскі паэт (Swinburne, 1837—1909), 16. Беціна фон, нямецкая пісьменніца, жонка Людвіга фон Арніма (1785—1859), 20. амерыканскі касмічны карабель, наследнік „Меркурыя" і папярэднік „Апалона", 22. найбольшы порт у свеце, 23. штучны гідратэхнічны насып, 27. міжнародная арганізацыя для барацьбы са злачыннасцю, заснаваная ў 1923 г., 29. вялікі шатландскі горад, 30. духмяная смала, 31. снарад з выбуховым рэчывам, 32. вялікае зборышча людзей, 33. трагедыя І. В. Гётэ, 34. бацька Авеля.

**Вертыкальна:** 1. прозвішча французскіх пісьменнікаў, заснавальнікаў прэстыжнай літаратурнай прэміі, 2. англійская выспа побач французскіх берагоў або назва тканіны, 4. працяглая стральба, 5. ручка ў касе, 6. важная мусульманская кніга, 7. устойлівы сезонны вецер з сушы на мора і з мора на сушу, 12. кідальная прылада аўстралійцаў, 14. наркатычнае рэчыва, 16. сталіца Ганы, 17. афіцыйны дыпламатычны зварот, 18. міфалагічны барадаты карлік, 19. паўднёвае дрэва сямейства ружакветных, 21. горад на 28° усходняй даўгаты і 49° паўночнай шыраты, 24. не гамеапат, 25. цэнтр расейскай губерні сумежнай з Беларуссю, 26. горы з вытокамі Обі, 27. адшчапенец ад свайго асяроддзя, 28. горад на захадзе Фларыды.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Міні-даведнік**

**Прамедол** — рэчыва, якое ўздзейнічае на цэнтральную нервовую сістэму.

**Адказ на крыжаванку з 33 нумара**

**Гарызантальна:** збыт, атрад, унучка, храм, патоп, аналой, вадзянік, кабан, нашыйнік, перахват, струп, адстаўка, бушлат, ідэал, этап, графін, Быкаў, дата.

**Вертыкальна:** страва, палова, бярэзіна, туман, кулак, склон, паніхіда, Ніжынскі, капа, бюро, кныр, акоп, атрамант, таджык, уладар, футра, альфа, стэнд.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Як доўга можна адначасова кахаць дзве жанчыны?

— Датуль, пакуль адна з іх не даведаецца пра гэта.

* * *

— Гавораць, што ў Японіі жанчыны жывуць даўжэй за мужчын...

— Гэта праўда, калі браць пад увагу ўдовы.

* * *

Пажылая жанчына сядзіць на паркавай лаўцы побач маладой дзяўчыны, якая закурыла папяросу.

— Саромелася б курыць у публічным месцы, — папракае бабуля дзяўчыну. — Я на тваім месцы, заміж курыць, лепш зграшыла б з мужчынам...

— Я б таксама хацела гэта зрабіць, але асталося мне тут толькі пятнаццаць хвілін.

* * *

Гутараць два мужчыны:

— Мая жонка захацела пахудзець: усе вольныя хвіліны прысвяціла коннай яздзе.

— І што з гэтага атрымалася?

— За тыдзень конь пахудзеў на дваццаць кілаграмаў.

* * *

Размова двух сяброў:

— Чаму ты жэнішся з Варкаю? Сам жа ты нядаўна гаварыў мне, што хочаш кінуць яе...

— Не магу гэтага зрабіць.

— Чаму?

— Бо яна так патаўсцела, што не магу з яе зняць заручальны пярсцёнак.

* * *

Муж вярнуўся раней з камандзіроўкі і пабачыў што з-пад коўдры выстаюць чатыры нагі. Схапіў калок і раз'юшаны стаў ім лупцаваць па пасцелі. Змарыўшыся, пайшоў у кухню, а там яго вітае жонка:

— Прыехалі мае бацькі, адпачываюць у нашым ложку. Ці ты прывітаўся з імі?

* * *

Гутараць два сябры:

— Каб прыйшлося табе выбіраць дзяўчыну, якую б выбраў: бландзінку ці шатэнку?

— Бландзінку.

— Чаму?

— Бо шатэнку маю ўжо дома.

* * *

— Чаму маеш такую сумную міну?

— Бо жонка ад'язджае ў водпуск і пакідае мяне аднаго.

— І цябе гэта сумуе?

— Не, але калі б я не меў смутку на твары, яна б ніколі не паехала.

* * *

— Якая твая жонка?

— Такая як і другія: гаворыць што мае наймудрэйшых дзяцей і найдурнейшага мужа.

* * *

Малады аўтар чытае сябру свой драматычны твор.

— Не ведаю, — кажа пасля заканчэння, — ці назваць гэта драмаю ці трагедыяй?..

— Гэта трагедыя, мой дарагі, трагедыя!

— Чаму?

— Ці ж не бачыш, што канчаецца шлюбам!?

* * *

— Дзе ты хаваеш перад жонкаю грошы, што яна ніколі іх не знаходзіць?

— Я іх звычайна кладу ў кош з незацыраванымі шкарпэткамі.